

ТУТ, ТАМ, ОДЭ →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Айцец Антоній →8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 42 (3101) Год LX | Беласток, 18 кастрычніка 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Прастора траўмаваных людзей

### І ДЗЕ Ж ЯНА НЕ БЫЛА?

У чацвер, 8 кастрычніка 2015 года ў 13.00 гадзін сярэднееўрапейскага часу, а ў 14.00 беларускага ў Стакгольме сакратар Шведскай акадэміі навук Сара Даніюс у вельмі лаканічнай фармулёўцы абвясціла свету: «За свае паліфанічныя творы, помнік пакутам і адвазе нашага часу» — лаўрэатам сёлетняй літаратурнай Нобелеўскай прэміі абрана Святлана Алексіевіч. Грамадзянка пакуль што незалежнай Рэспублікі Беларусь і, як сама заявіла, беларускага свету — на першай, імправізаванай канферэнцыі таго ж дня ў рэдакцыі «Нашай нівы».

У вельмі малым, дaслоўным, «беларускім свеце», пакойчыку памерам дваццаці квадратных метраў, у якім не змаглі змясціцца ўсе журналісты жадаючыя ўзяць выказванні ад сусветнай гераіні дня. Крыху дзіўна выглядала гэта збоку, калі ўсе амаль спецыялісты і букмекеры стоадсоткава прагназуюць менавіта Нобелеўскую прэмію для Святланы Алексіевіч, а тут ніхто з мінскіх літаратурных ці журналісцкіх асяродкаў — так на ўсялякі пажарны, хіба не меў дамоўленасці з аўтаркай наконт правядзення першай супольнай прэс-канферэнцыі ў прасторнай зале, зараней вядомай, якая гарантуе ўсім пэўны ўзровень якасці адпаведны для рангу падзеі. Зразумела, і раней папрасіць скласці ёй кампанію ў так важны момант для ўсёй Беларусі. З другога боку сама пісьменніца, здаецца, вяла да апошняй хвіліны сваю нейкую гульню з беларускімі журналістамі і пісьменнікамі, падводзячы іх пад дурнога хату. Ці гэта была звычайная чалавечая сціпласць Святланы Алексіевіч, перадуманы піяр, ці нейкі недавер да беларускіх сяброў па літаратурным і журналісцкім пяры? Пытанняў хоць адбаўляй. Гісторыку літаратуры, які будзе пісаць навуковую працу пра першую беларускую Нобелеўскую прэмію, адзін з раздзелаў павінен прысвяціць медыйнаму закалоту ў беларускіх сродках масавай інфармацыі і ў тых дзяржаўных, і тых незалежных, які меў месца тымі днямі і гадзінамі. Некаторыя медыі нават напярэдадні (серада) інфармавалі, што пісьменніца знаходзіцца за мяжой. Вось вытрымкі такіх матэрыялаў: «Свабода патэлефанавала Святлане Алексіевіч з просьбай падзяліцца сваімі адчуваннямі ў ролі фаварыткі букмекераў на атрыманне сёлетняй Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Пісьменніца сказала, што цяпер яна знаходзіцца па-за межамі Беларусі і паабяцала пагаварыць з Радыё Свабода пасля таго, як стане вядомы пераможца. „Да заўтрашняга дня нічога не каментую", — падкрэсліла яна». Ужо ў чацвер, 8 кастрычніка а 14.24 на сайце таго ж самага радыё прызнанне прэміі радасна пракаментавала яе сяброўка Марыя Вайцяшонак, паведаміўшы пры гэтым, што... «Алексіевіч цяпер у адной з краін Балтыі, але неўзабаве вернецца ў Менск».

А тым часам, як выявілася на вышэйзгаданай прэс-канферэнцыі, гераіня сцвердзіла, што нікуды зараз з Беларусі не з'яздала. Была проста на сваім лецішчы і, толькі што вярнуўшыся ў Мінск, займалася хатнім прасаваннем, калі паведамілі ёй пра тую радасную навіну. От і ўсё.



sputnik.by





Наша Ніва

### СВЕТЫ СВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ

«Я сябе адчуваю чалавекам беларускага свету, чалавекам з моцнай прышчэпкай расейскай культуры, які вельмі доўга жыў у свеце. І, вядома, касмапалітам».

Гэтым выказваннем пра беларускі свет і сваіх літаратурных і жыццёвых куміраў у асобах Алеся Адамовіча і Васіля Быкава, Алексіевіч пацвердзіла свой жыццёва-грамадзянскі выбар менавіта да беларускай, а не расейскай ці ўкраінскай дзяржаўнай прасторы. Постсавецкі трохкутнік, які наклаў сваё кляймо не толькі на лёсы герояў пісьменніцы, але і на яе самую, паставіў яе перад сямейнымі, але і інтэлектульна-нацыянальнымі выбарамі. Зрабіць свядомы выбар савецкаму чалавеку гэта той цяжар і тая адказнасць, перад якой ён бароніцца рукамі і нагамі. Савецкі парадак, рускі мір, пуцінскі свет — гэта зараз агрэсіўная прaва імперскіх памкненняў палітычных постсавецкіх, расейскіх палітыкаў, якія прапануюць мільёнам людзей вяртанне ў міфічнае, шчаслівае, палітычнае дзяцінства.

Усім ім адказвае наступным чынам беларуская пісьменніца: «Я люблю „русский мир", праўда, дагэтуль не магу зразумець, што яны маюць на ўвазе. Я люблю добры „русский мир": гуманітарны „русский мир". Той „мир", перад якім дагэтуль схіляе галаву ўвесь свет. Перад той літаратурай, балетам, музыкай вялікай. Гэты „мир" я люблю. Але я не люблю „мир" Берыі, Сталіна, Пуціна, Шойгу. Гэта не мой свет». Міністр інфармацыі Расеі Уладзімір Грыгор'еў, нягледзячы на выразна антыпуцінскія погляды Святланы Алексіевіч, як адным з першых увогуле павіншаваў пісьменніцу. У апошніх месяцах па ўсёй Расеі прайшла ў медыях хваля матэрыялаў супраць творчасці пісьменніцы. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла у сваіх віншаваннях напісала: «Ганаруся Вамі — і адначасна спадзяюся, што Вы самі нікому не дазволіце назваць Вас расейскай пісьменніцай. Поспехаў Вам і здароўя!». Некаторыя беларускія інтэлектуалы і пісьменнікі менавіта з-за расейскай мовы яе кніжак з насцярожанасцю ставяцца да прэміі. Баяцца яны ці не пашкодзіць гэта і так фатальнай сітуацыі з беларускай мовай у грамадстве і культуры. Ці не будзе гэта згодай на далейшы рэлятывізм і канфармізм для тых, каму беларускасць не ёсць маральным выклікам? Ці, беручы пад увагу кан'юнктурнасць моўнага пытання, маладыя пісьменнікі ў Беларусі не зробяць стаўкі ў бок поўнай кніжнай расейшчыны?

«Нобелеўскую прэмію па літаратуры атрымала Святлана Алексіевіч, родам з Івана-Франкоўска. Дзе б мы не былі, на якой бы мове не размаўлялі і не пісалі — мы заўсёды застаемся ўкраінцамі! Віншую!» — напісаў украінскі прэзідэнт Пятро Парашэнка ў фейсбуку.

Хуткасцю сваіх віншаванняў значна ён апярэдзіў Аляксандра Лукашэнку, а міністр культуры Беларусі, здаецца, да гэтай пары не знайшоў часу на віншаванні. Сапраўды нобелеўская лаўрэатка з мешанай, беларуска-ўкраінскай сям'і. І з гонарам адзначае: «Мая бабуля, мая маці — яны ўкраінцы. Я вельмі люблю Украіну. І вось калі я была на Майдане, на плошчы і бачыла гэтыя фатаграфіі Нябеснай сотні, я стаяла і плакала. Гэта таксама мая зямля».

### ГАНДЗІ НА БАРЫКАДАХ?

Перад маімі вачыма стаіць вобразнае фота з першай прэс-канферэнцыі. Уціснутая ў фатэль Святлана Алексіевіч, акружаная падстаўленымі пад сам рот мікрафонамі, дыктафонамі. Неверагодны сціск прысутных нагадваў нейкую рэвалюцыйна-анархістычную тусоўку. А за якім-небудзь парадкам у самім цэнтры падзей сочыць мажны і не менш важны нашаніўскі журналіст. Усе быццам у чаканні сенсацыйнага заклiку, каб у гэты момант усім зварухнуцца і ісці фарсіраваць дзверы прэзідэнцкага палаца. Бо ж дагэтуль не было аніякіх сенсацый у гэтым занудлівым ад дваццаці гадоў працэсе прадаўжэння векавечнай дыктатуры кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі, завершанага ў нядзелю 11 кастрычніка «чарговай звыш 80-працэнтнай перамогай». А яна, на спакойна, на колькі можна было, адказвае на ўсе палітычныя пытанні, якіх аказалася значна больш за літаратурныя: «Я не барыкадны чалавек, але ўвесь час цягне на барыкады. Таму што сорамна, сорамна за тое, што адбываецца. (...) Я супраць рэвалюцыі. Мне не падабаецца кроў. Я не хачу, каб хаця б адно жыццё маладога хлопца было згубленае. Я лічу, мы мусім знайсці свой беларускі „гандзізм". Калі мы будзем разам, мы яго знойдзем».

У нядзельны вечар 11 кастрычніка, пасля паведамлення пра яркі выйгрыш Аляксандра Рыгоравіча, на Кастрычніцкай плошчы вырашыла быць разам пад 200 асоб, каб у мірны спосаб, так як Гандзі, выказаць свой супраціў. От і ўсё.

**Яўген ВАПА**


Біяграфію лаўрэаткі і даведку пра літаратурную Нобельскую прэмію чытайце на 10 старонцы






# УРНА З ПРАХАМ альбо ЗГУЛЯЛІ Ў СКРЫНКУ

Як той казаў, прыемна глядзець кінастужку, асабліва калі ведаеш, чым яна заканчыцца. Так і з выбарамі ў Беларусі. Праўда, калі шчыра казаць, глядзець гэтую зашмальцаваную стужку ці заезджаны спектакль даўно абрыдла. Назіраць за адным „манументальным" і нязменным кандыдатам ды трыма статыстамі, якія забяспечваюць масоўку, сапраўды зараз было нецікава. І непрыемна, і нават агідна. Куды цікавей паназіраць за сябрамі камісій, якія забяспечваюць і абслугоўваюць „элегантную" перамогу нязменнага трыумфатара.

Накіроўваюся на адзін з выбарчых участкаў, што размешчаны ў сярэдняй школе, і рэгіструюся назіральнікам. Датэрміновае галасаванне, якое доўжыцца ажно 5 дзён — асаблівы серыял. Сяджу — назіраю. Усюды плакаты кандыдатаў — на якіх тры вусачы і адна жанчына. Дзеці, якія прабягаюць, кажуць пра галоўнага казака, што ён падобны на Сталіна. Першымі прыходзяць людзі вельмі сталага веку. Менавіта яны — самыя актыўныя на ўсіх выбарах, найперш забяспечваюць яўку. Ледзь шоргаюць нагамі, амаль нічога ўжо не бачаць і не чуюць, але „ўвераннa выбіраюць будучае". Адзін дзядок хацеў нават укінуць у скрынку свой пашпарт, але не паспеў — рукі дрыжалі, ды і камісія ў час спыніла. Не буду больш іранізаваць, бо старасць трэба шанаваць, якой бы яна не была. Але далібог, будзь мая воля, прапанаваў бы ў выбарчы закон змены з прапановай даць пенсіянерам права толькі дарадчага голасу, альбо ўпалавінваць іх галасы. Дадам для дэмакратаў — жартую я так, нельга ўсё ж пазбаўляць чалавека голасу.

„Нарысуйце мне за Лукашэвіча!" — просіць наступная бабулька, але камісія пільнуецца заканадаўства і прапануе здзейсніць ёй сакральны акт усё ж самастойна. „Ну, за каго тут галасаваць? — За Чынгісхана!? — гучна пытаецца наступны паўнаваты ружавашчокі дзядзька. — Ну чаго вы тут паселі як на памінках?!" — на дае ён сумаваць камісіі. Наступны прыйшоўшы мужчына таксама не абдзелены пачуццём гумару: „Буду галасаваць за Караткевіч — гэта ж яна напісала „Хрыстос прызямліўся ў Гародні", — інфармуе ён прысутных і ставіць адзнаку ў бюлетэні, не заходзячы ў зашторaную кабінку. Некаторыя пенсіянеры затрымліваюцца там надоўга, відно, што шукаюць прарэзу ў стале, на якім галасуюць і ў якім натуральна ніякай шчыліны няма.

Некаторыя прыходзяць з энтузіязмам, віншуюць са святам. Іншыя — відаць што пад прымусам — заганяць працаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў на выбары пад страхам звальнення, студэнтаў з пагрозай адлічэння — ужо звыкласць. Жанчына бальзакаўскага ўзросту амаль не хавае свайго раздражнення і дэманстратыўна рэзкім росчыркам ставіць у атрыманым бюлетэні пазнаку ў графе „супраць усіх". Як выявіцца пазней, адсотак прагаласаваўшых супраць выбарчага фарсу станецца ў Беларусі рэкордным сярод усіх прэзідэнцкіх кампаній. Сярод прыйшоўшых галасаваць выразна дамінуюць жанчыны — на некаторых участках іх колькасць дасягнула 70 адсоткаў.

Цікавыя асобы і членаў участковых камісій. Яны заслугоўваюць, безумоўна, асобнага аповеду. Пераважная частка камісій у гарадах складаецца менавіта з дырэкцыі і настаўнікаў школ. Мае рацыю ўсё ж мой сябра, які кажа, што ніякія яны не настаўнікі. Гэта дзяржаўныя чыноўнікі ніжэйшага рангу, службоўцы, „государевы люди". Акрамя членаў камісіі, якая поўнасцю складаецца з настаўнікаў, падрыхтавана і група настаўнікаў-назіральнікаў, якія нібыта прадстаўляюць розныя грамадскія арганізацыі (а насамрэч праўладныя структуры кшталту БРСМ ці „Белай Русі"). Яны сядзяць з загадзя падрыхтаванымі пратаколамі пра „празрыстасць" працэсу і правяраюць школьныя сшыткі. Амаль па Фрэйду, старшыню камісіі час ад часу называюць „начальнікам участка".

„Выбары" прайшлі, ЦВК намалявала свае патрэбныя ім лічбы. Заслона. У ільфапятроўскага літаратурнага героя Безянчука ёсць вычарпальная характарыстыка смерцяў — „гікнуцца", „даць дуба", „перакуліцца", „загадаць доўга жыць". Ёсць сярод класіфікацыі і такая — „згуляць у скрыню". Яшчэ будуць прааналізаваны вынікі найбольш сумных і нудных прэзідэнцкіх „выбараў", але ўжо зараз можна сказаць, што сапраўдныя галасы пайшлі прахам, а дэмакратыя ў Беларусі канчаткова „згуляла ў скрыню".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Выбары — справа вядомая

Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі ў эмацыйным сэнсе павінны быць важнай палітычнай падзеяй, як для беларускіх грамадзян, так і для беларусаў — грамадзян Польшчы. Ці так сапраўды?

Падзел беларусаў на гэтых «адсюль» і «тамашніх» — незалежна ад таго, хто ў які бок глядзіць — гэта гістарычны і палітычны факт, і хаця намечаны культурнай драмай, у нейкай меры імі прыручаны і перапрацаваны ў думках. Для маладых гэта факт існуючы і відавочны. Для тых, хто старэйшы, хто ўдзельнічаў у кароткім, але інтэнсіўным працэсе суверэнізацыі савецкіх народаў пасля распаду СССР, з'яўляецца таксама фактам, але не да канца відавочным. Таму што размывае яго рэліктавая траўма папярэдніх пакаленняў, беспасп̆яхова дамагаючыхся самастойнага існавання беларускай дзяржавы. Быту рэальнага, нават калі памеру паштовай маркі. Іншая справа, што праз нейкі час можа аказацца, што тая марка бракаваная! Такім чынам, не тэрытарыяльны абсяг быў для беларусаў канчатковай мэтай, але стварэнне самавызначанай імі і незалежнай дзяржаўнасці. Калі гэта здарылася, а гэта было ў незабыўным 1990 годзе, ні аднаму з беларусаў — і тутэйшаму, і тамашняму, нават не ўзнікла ў галаве думка аб тэрытарыяльнай узурпацыі. Абыякава, у які бок арыентаванай. Я не сумняваюся, аднак, што стварэнне беларускай дзяржавы напоўніла гонарам беларусаў па абодвух баках мяжы, якая іх раздзяляе. Гэта мела маштаб супольніцкага адзінства. І не толькі ў гэтым выпадку. Такіх супольніцкіх спасылак і са станоўчым розгаласам можна дашукацца значна больш. Але ёсць і адмоўныя, як своеасаблівае аднолькавае стаўленне абодвух бакоў да нацыянальнай мовы. Хачу адзначыць, што я не выслільваюся на сарказм. Штораз менш беларусаў у Беларусі выкарыстоўвае (або хоча выкарыстоўваць) беларускую мову, што абсурдна, калі паглядзець на карту Еўропы, у якой выразна бачная дзяржава Беларусь. Не інакш адбываецца з беларусамі ў Польшчы, дзе хапае беларускіх адукацыйных устаноў. Магчыма, прычынай гэтаму з'яўляецца адсутнасць ідэнтычнасці, якая тычыцца не толькі беларусаў. У нейкай прычыннай частцы адказвае за гэта не злы дух глабалізму, які выказвае сябе ў тым, што большае паглынае меншае, асабліва ўцягваецца ў глабальнае, мацнейшае засмоктвае слабейшае. Вынікам з'яўляецца размазванне культурных контураў і зніканне нацыянальных моў. Дарэчы, беларуская мова ўжо апынулася ў ААНаўскім спісе паміраючых моў. Другой часткай прычын спынення ідэнтычнасці можа быць прагрэсіўная паланізацыя або русіфікацыя беларусаў. На жаль, не толькі моўная. Гэта з'яўляецца прычынай для трывогі, якая апраўдвае цяжкае пытанне: колькі ёсць беларуса ў беларусе — у тутэйшым і тамтэйшым? Паколькі і адных, і другіх падсілкоўваюць чужыя ім натуральныя крыніцы, чужыя ім ментальна, якіх натуральнае вусце знаходзіцца ў адрозных грамадскіх і палітычных філасофіях, можна ўжо гаварыць аб фармiраванні асобных, адмыслова задуманых, культурных габітатах (асяроддзях пражывання). Праўдырскі аўтарытарызм, на які дае згоду большасць грамадзян Беларусі і Расіі, прынцыпова адрозніваецца ад кульгавай, але ўсё яшчэ дэмакратычнай сістэмы ў Польшчы, на якую дае сваю выбарчую згоду большасць яе грамадзян. У тым ліку беларуская меншасць. Працэс дэбеларусізацыі, прагрэсіруючы ў абодвух габітатах, па маёй інтуіцыі, і толькі інтуіцыі, таму што пацверджаных навуковымі даследаваннямі доказаў на гэта не магу знайсці, парушае ў беларусах іх этнічную і культурную незалежнасць. Такім чынам, гэта ставіць пад сумненне супольніцкую салідарнасць беларусаў, падзеленых не толькі памежнай лініяй, але таксама культурнымі і цывілізацыйнымі зонамі ўплыву. Таму стаўлю яшчэ адно актуальнае пытанне аб тым, наколькі цікавы беларусам «адсюль» вынік прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, і ў якой ступені беларусам «адтуль» вынік парламенцкіх выбараў у Польшчы. І ці мае гэта для іх якое-небудзь значэнне?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Папраўкі прыняты

У апошні момант былі прыняты папраўкі да закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове. Гэта адбылося на апошнім пасяджэнні Сената, калі пасля другога сеймавага чытання не былі прад'яўлены заўвагі і не мусілі яны вяртацца пад абрады ў Сейм. Аб сутнасці папраўвак я пісаў у «Ніве» некалькі разоў, так што па гэтым пытанні адсылаю да папярэдніх нумароў. Тым не менш, нельга не заўважыць дэбатаў, якія адбыліся на пленарным пасяджэнні Сейма яшчэ падчас другога чытання папраўвак (24 верасня). З пачатку працы над папраўкамі было ясна, што яго прыхільнікамі з'яўляюцца дэпутаты Грамадзянскай платформы і Саюза левых дэмакратаў. Таямнічай была пазіцыя ПСЛ і відавочна яснае, на працягу доўгага часу, супрацьдзеянне ПіС. Вось чаму я не быў здзіўлены выказваннем падчас чытання папраўвак дэпутата Права і справядлівасці, віцэ-старшыні парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях Марка Аста: «Ці ў цяперашні час неабходны настолькі далёка ідучыя змены ў законе? У прыватнасці тыя, якія тычацца пашырэння на паветы магчымасці выкарыстання дапаможнай мовы ва ўстановах, таму што гэта парушае нейкім чынам кансэнсус, які быў дасягнуты ў 2005 годзе (дата ўступлення ў сілу закона аб меншасцях — М.Х.). Акрамя таго, праект, у прынцыпе, быў прадстаўлены ў Палату без кансультацый з самаўрадавымі асяроддзямі».

Я павінен тут дадаць, што, у адпаведнасці з папраўкамі, пашырэнне дапаможнай мовы на паветы ахопіць пакуль толькі чатыры: беларуская — Гайнаўскі, літоўская — Сейненскі і два кашубскія паветы, таму што, паводле апошняга перапісу насельніцтва, у іх жыве патрабаваных законам больш за 20% грамадзян дадзенай меншасці або асоб, якія карыстаюцца рэгіянальнай мовай. Магчыма, гэта зменіцца ў 2021 годзе — пасля наступнага перапісу насельніцтва.

У час другога чытання я, вылупіўшы вочы, слухаў кур'ёзнага меркавання дэпутата Артура Дэмбскага, які выказваўся ад імя клуба ПСЛ: «Не будзем падтрымліваць гэты законапраект. Прычынай, чаму гэтак адбываецца, з'яўляецца тое, што ў нашай краіне існуе мільённая супольнасць, якая ў нейкай меры выключаная з карыстання магчымасцямі, якія вынікаюць з пражывання ў нашай краіне. Я кажу пра глухіх людзей і мове жэстаў (...). Мы павінны памятаць аб усіх выключаных і не павінны разглядаць гэтае пытанне выбарачна».

Здзівіла гэтая заява дэпутата Рышарда Галлю, віцэ-старшыню парламенцкай камісіі па меншасцях (нямецкая меншасць): «Прабуюць лучыць нас з асяроддзем кепска чуючых, глухіх. Нацыянальныя і этнічныя меншасці не жадаюць калі-небудзь быць закладнікамі любых іншых, я б сказаў, рашэнняў».

Сустаршыня камісіі меншасцей дэпутат Яўген Чыквін так, як падчас дэбатаў у камісіі, звяртаўся і ў другім чытанні з прапановай, каб дадаць «рэлігійны элемент» у палажэннях, якія тычацца «падтрымкі мерапрыемстваў, накіраваных на абарону, захаванне і развіццё культурнай самабытнасці меншасцей» і дадаць да законапраекта грэцкую меншасць. Гэтыя яго папраўкі на пленарным пасяджэнні большасцю дэпутатаў былі адхілены.

Цікава, што падчас другога чытання запісаны да голасу быў падляшскі дэпутат Адам Рыбаковіч з Твайго руху, але аказалася, што ў зале ён адсутнічае, таму голасу не ўзяў, як гэта часта адбывалася на пасяджэннях камісіі меншасцей, якой ён быў членам.

Пасля другога чытання 258 дэпутатаў выказаліся за папраўкамі, супраць было 61 і два ўстрымаліся. ПСЛ у гэтым галасаванні быў падзелены, нягледзячы на заяву дэпутата Дэмбскага.

Пасля другога чытання ў Сейме папраўкі да Закона былі працягнуты на апошняй пленарнай сесіі Сената гэтага склікання (30 верасня). Раней абмяркоўвалася яна ў сенацкай камісіі тэрытарыяльнага самаўрада і дзяржаўнай адміністрацыі. Там не здабыла падтрымкі большасці. Дакладчык камісіі Анджэй Матусевіч, прадстаўляючы ўсёй Вышэйшай палаце аргументы працаўнікаў, спасылаўся на невыкананне правоў польскай меншасці ў Нямеччыне і Літве. Аднак пасля кароткага абмену думкамі 49 сенатараў прагаласавала за цэлы праект папраўвак, 29 было супраць і адзін устрымаўся. Такім чынам, без сенацкіх папраўвак навелізацыя не мусіла вяртацца ў Сейм, толькі трапіла ў Канцылярыю прэзідэнта. Пасля падпісання прэзідэнтам навелізаваны закон уступіць у сілу праз тры месяцы пасля яго афіцыйнага апублікавання. Прэзідэнт, аднак, можа папраўленага закона не падпісаць, асабліва ведаючы пазіцыю ПіС у гэтай справе.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**З 27 верасня па 4 кастрычніка на Падляшшы праходзіў II Тэатральны фестываль «Одэ». Гледачы Бельска, Гайнаўкі і Беластока маглі паглядзець чатыры спектаклі. Тэатр «Крылы халопа» з Берасця прадэманстраваў вядомы ўжо ва Еўропе спектакль «Чарнобыль», менскі тэатр «Картонка» парадаваў наймалодшых гледачоў пастаноўкай «Быў бы ў мяне цмок», тэатральная група школьнай моладзі з Гайнаўкі і Бельска прадставіла спектакль «Бежанства». Падчас фестывалю мела месца прэм'ера манадрамы «Ксенія».**

# Жаночая сіла «Одэ-2015»



## КСЕНІЯ

Нягледзячы на тое ці гэта спектакль для дзяцей, ці манадрама, якая паўстала на аснове філасафічнага эсэ пра экзістэнцыю чалавека, то затрыманне выключнай увагі публічнасці на сабе ўдаецца толькі найлепшым — сярод гэтых Іаанна Стэльмашук-Троц у тэатральнай прэм'еры «Ксеніі».

«Ксенія» гэта новы спектакль Іаанны Стэльмашук-Троц. Манадрама інспіраваная жыццём праваслаўнай святой Ксеніі Пецярбургскай, якая ва ўзросце дваццаці шасці гадоў страціла на вайне мужа. З тагого часу пачынаюцца вялікія пакуты маладой жанчыны і яе духовая перамена. Спектакль паўстаў на аснове філасафічнага эсэ Тамары Болдак-Яноўскай, на мове ваколіц Гарадка. Гэта ўжо чарговы спектакль пасля пастановак «Я і ў полі вярбою расла» і «ПустаЯ», якія Іаанна Стэльмашук-Троц паставіла на дыялекце беларускай мовы. Прадставіла яна манадраму натхнёную жыццём падляшскіх святых — «юродзівых». Гэтым разам супольна з рэжысёркай Магдаленай Чайкоўскай стварылі новую манадраму, якая мае тое ж супольнае з папярэднімі спектаклямі, што таксама расказвае пра цяжкасці жыцця жанчыны, пра яе сілу і ўнутраную мудрасць.







Манадрама гэта свайго роду выклік. Гэта не толькі цяжкае, але таксама захапляючае — так для акцёра, як і гледача. Можна яго параўнаць да першай сустрэчы, на якую глядач ідзе няўпэўнена, перапоўнены жаданнем, што гэта толькі пачатак чагосьці большага і прыгажэйшага. З другога боку, ад аднаго акцёра залежыць, ці гэтая сустрэча перародзіцца ў штосьці большае, ці будзе мела свой працяг. А як гэта бывае, вынік тэатральнай сустрэчы можа быць розны.

На пачатку спектакля гераіня даведваецца пра смерць свайго мужа Андрэя Фёдаравіча Пятрова. Гэтае здарэнне так моцна паўплывае на кахаючую жонку, што глядач мае магчымасць прыглядацца цэламу «шаленству» маладой Ксеніі на сцэне.

Іаанна Стэльмашук-Троц і Магдалена Чайкоўская пільнуюць таго, каб гледача ад шалёнага экстазу Ксеніі нішто не адцягвала. Мінімалісцкае сцэнічнае афармленне, некалькі рэквізітаў, дамінуючая ва ўсім чэрнь і яркі прамень сырога святла памагаюць гледачу засяродзіцца на тым, што важнае: на самотным падарожжы праз цемру. Жыццёвую цемру, у якой апынулася галоўная гераіня.

Хутка, на пачатку спектакля, высвятляецца справа смерці Андрэя — мужа Ксеніі. Аказваецца яна быць толькі пачаткам да таго, каб дакрануцца да чагосьці важнага: да пытанняў пра жыццё і смерць, Бога і чалавека, пра час, сэнс, праўду і хлусню, пра шаленства і перапоўненую ілюзіяй «нармальнасць».

## ПЫТАННІ БЕЗ АДКАЗУ

«Якая розніца, хто ляжыць у труне? Адно цела так лёгка распалавініць па палавіне?» — пытаецца Ксенія са сцэны і пакідае нас з гэтымі пытаннямі адных, каб мы, узбагачаныя яе гісторыяй, спрабавалі знайсці адказ самастойна. Для яе гэта ўжо зусім яснае. Пераапрануўшыся ў вопратку свайго мужа, пачне новае жыццё, перапоўненае болем па страце каханага. Аднак Ксенія, нягледзячы на цяжкасці, якія прынёс ёй лёс, нават праз хвіліну не перастае верыць у Бога. А сакраментальную прысягу ўспрымае аж надта даслоўна. Прычым не мае прэтэнзіі да Тварца ні за цярпенне, ні за смерць Андрэя.

Гэтыя пошукі адказаў на пытанні, нараўне з пастаяннымі сюрпрызамі, з якімі звязанае набыццё ведаў і новага вопыту, аказваюцца тут дамінуючымі. Яны фармуюць нас, загартоўваюць наш характар. Робяць нас тымі, кім мы на самой справе з'яўляемся, напрыклад, ідэальна кахаючай, шалёнай Ксеніяй.

## ТЭАТРАЛЬНАЯ СУСТРЭЧА

Незалежна ад таго, ці Іаанна Стэльмашук-Троц прадстаўляе спектакль для дзяцей, ці манадраму на аснове філасофскага эсэ аб чалавечым існаванні, то ўтрыманне на сабе выключнай увагі публікі ўдаецца толькі найлепшым. Для яе гэта ўдаецца. Таму што гэта велізарнае мастацтва, каб умела весці сваю аўдыторыю так, што яна спачувае, і дзе спачуванне пераходзіць у паблажлівасць, а паблажлівасць пераходзіць у поўную пашану задуму. Аднак у спектаклі «Ксенія» глядач у пэўны момант можа стаміцца мяшанкай эмоцый, можа не вытрымаць густой атмасферы, якую будуе акцёрка. Аднак спектакль не дазваляе гледачу быць абыякавым. Яшчэ доўга пасля апошніх воплескаў глядач задумваецца над складанасцю жаночага лёсу.

Спектакль быў паказаны двойчы пры поўнай зале. Прэм'ера мела месца ў Падляшскай оперы і філармоніі, другі раз маладая акцёрка выступіла перад бельскай публікай.

## ОДЭ

Апрача «Ксеніі» гледачы з Бельска, Беластока і Гайнаўкі маглі яшчэ пабачыць іншыя спектаклі. Наймалодшую аўдыторыю парадавала мінская тэатральная група «Картонка» спектаклем «Быў бы ў мяне цмок» на аснове казкі вядомага байкапісца Донадьда Бісета. Сцэнаграфічнае афармленне поўнасцю было зроблена з экалагічных прадуктаў. Тэатр прапанаваў таксама цацачную пастаноўку для дарослага гледача пад загалоўкам «Хатні вожык», які кранаў пытанні любові і сумленнасці да людзей. Гэтая нескладаная гісторыя прымушала гледача да роздумаў над сваімі паводзінамі. Казку напісаў пецярбургскі авангардны акцёр Уладзімір Шынкароў.

Невыпадкова падчас фестывалю моладзь гайнаўскага і бельскага белліцэяў чарговы ўжо раз, ставіла спектакль «Бежанства». Сотую гадавіну гэтай трагічнай падзеі менавіта адзначаем сёлета. Апякунка групы Іаанна Стэльмашук-Троц над спектаклем працавала амаль год. Высокі мастацкі ўзровень прадставіў чарговы берасцейскі госць — тэатр «Крылы халопа» пастаноўкай «Чарнобыль».

Іаанна Стэльмашук-Троц вялікую ролю надае дыялектам беларускай мовы. Таму ў праваслаўным садку ў Бельску-Падляшскім зачытала яна наймалодшым гледачам казкі, менавіта, на бельскім дыялекце. Акцёрка лічыць літаратурную беларускую мову крыху штучнай, мовай журналістаў. На яе думку, беларусы Беласточчыны хутчэй за ўсё карыстаюцца сваімі дыялектамі. Яе ранейшыя спектаклі «ПустаЯ» і «Я і ў полі вярбою росла» гучаць на дыялекце з ваколіц Бельска-Падляшскага.

Дзякуючы такім фестывалям як «Одэ» жыхары Падляшша маюць магчымасць пасмакаваць высокае мастацтва, якім безумоўна з'яўляецца прафесійны тэатр. І як даказвае гэта арганізатар фестывалю — тэатр «Чрэво» — тэатр можа існаваць і прапанаваць цікавыя спектаклі, нават ствараючы без сваёй сцэны.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Салідарныя з Беларуссю — 2015




Справа: Мікола Статкевіч з жонкай і Зміцер Дашкевіч з жонкай

Сёлета, не вясной, толькі 2 кастрычніка, адбыўся ў Варшаве чарговы, дзявяты выпуск канцэрта «Салідарныя з Беларуссю», арганізаванага пад лозунгам «Свабода без межаў». Гэта было звязана з прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі (11 кастрычніка). На адной са сцэн у велізарным шатры каля Палаца культуры і навукі з'явіліся артысты і палітыкі з Польшчы, Беларусі і Украіны. З нагоды канцэрта адбыўся шэраг спадарожных мерапрыемстваў — кінапаказы, выставы, дыскусіі, у якіх прынялі ўдзел мастакі, інтэлектуалы і грамадскія актывісты, у прыватнасці з Беларусі і Польшчы. Як падкрэслівалася арганізатарамі (Ініцыятыва «Свабодная Беларусь»), канцэрт «Салідарныя з Беларуссю» мае быць «прасторай для дыялогу і ўзаемаразумення».

Яшчэ да канцэрта ў гутарцы з «Нівай» перад выступамі насупраць стэнда з футболкамі і гаджэтамі з беларускай сімволікай мінскай «АртСядзібы» ў холе шатра Філіп Пельц з Ініцыятывы дадаў:

— Самы важным элементам «Салідарных з Беларуссю» з'яўляецца падтрымка, якую мы аказваем суседзям у Беларусі, і я ведаю, што гэтая падтрымка ім патрэбная. Мы аказваем салідарнасць і паказваем, што ў Польшчы ёсць людзі, якія падтрымліваюць іх у барацьбе супраць рэжыму. Мы запрасілі, як два гады назад Украіну, таму што геапалітычная сітуацыя там складаная, і ўсе нашы тры краіны (Польшча, Беларусь, Украіна) цесна звязаныя паміж сабой, і ў цяперашні час аказанне падтрымкі для Украіны ў сувязі з тым, што там адбываецца, важна таксама і для Беларусі.

На канцэрце мы заўважылі групу маладых людзей з Беласточчыны, у тым ліку да нядаўна звязаных са згуртаваннем «АБ-БА», некаторыя з якіх у цяперашні час дзейнічаюць у Беларускім аб'яднанні студэнтаў. Ніна Ваўранюк, студэнтка ўсходнязіяцкага кірунку (япаністыкі) Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве:

— З нагоды прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі важна, каб пасведчыць сваёй прысутнасцю на канцэрце, што нам — беларусам у Польшчы і палякам важна, што там адбываецца, і ўвогуле за ўсёй усходняй мяжой.

## Непазбежныя драматычныя змены

Паміж выступамі артыстаў на сцэне з'явіліся героі барацьбы за свабоду з Польшчы, Украіны і, вядома, з Беларусі, у тым ліку лідар моладзевага руху «Малады фронт» Зміцер Дашкевіч, неаднаразова затрыманы міліцыяй. Сярод іх быў таксама Мікола Статкевіч, лідар апазіцыйнай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), два разы падчас уладарання Аляксандра Лукашэнкі, у апошні час у 2011 годзе, засуджанага на шэсць гадоў турэмнага зняволення за «арганізацыю масавых беспарадкаў» пры нагодзе сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 г. Ён быў выпушчаны разам з пяццю іншымі палітычнымі вязнямі ў другой палове жніўня. Калі Статкевіч з'явіўся на сцэне, прынялі яго воклічамі «Герой!». Удалося нам пагаварыць з ім хвіліну. Ён быў перакананы:

— Падчас любых выбараў у Беларусі нічога ўжо вырашацца не будзе, таму што з гэтай уладай будзе толькі імітацыя выбараў. Сітуацыя ў Беларусі зменіцца незалежна ад іх і не ў іх ходзе, а калі з гэтага катла нешта сарве крышку, калі цярпенне народа кончыцца, калі ўлада дасягне абсалютнай мяжы. Сітуацыя будзе вырашацца іншымі сродкамі, на жаль, не выбарчымі. Я прадбачваю некаторыя варыянты, але, на жаль, усё паказвае, што яны будуць гвалтоўныя. Гэта вельмі непажаданая альтэрнатыва, але Лукашэнка да гэтага кіруецца, не даючы людзям магчымасці выбіраць сваіх прадстаўнікоў, і такім чынам вырашыць свой лёс. Не пакідае народу іншага шляху, чым прыбраць яго непарламенцкімі, недэмакратычнымі, нявыбарчымі сродкамі. Я не ведаю, якую форму прыме гэты гвалт. Хацелася б, каб страты былі мінімальныя, але, на жаль, робіцца гэта непазбежным.

**— Аднак, ці магчыма пераадолець страх у краіне?**

— Магчыма, але здаўленая, задушаная нацыя — як сціснутая спружына, калі сарве клапаны, засцерагальнікі, мы ўбачым выбухі. Яшчэ здзівімся бурнай рэакцыі беларусаў.

**— А калі гэта наступіць?**

— Я не ведаю як гэта спрагназаваць. Адно можна сказаць напэўна, гэтая сацыяльна-эканамічная мадэль, пабудаваная Лукашэнкам, больш няздольная на што заўгодна. Свой рэсурс ужо вырабіў. Падымаецца перад выбарамі, трымаючыся на пазычаных грашах. Гэта гаворка пра найбліжэйшыя гады але, магчыма, нават месяцы.

**— Захад у апошні час падморгвае Лукашэнку, здаецца, што ён хоча з ім збліжэння?**

— Захад напалоханы Расіяй і спрабуе знайсці саюзніка ў Лукашэнку, развярнуць яго ад Расіі. Гэта проста смешна. Беларуская эканоміка гэта стратны філіял расійскай. Усё завязана тут на расійскіх субсідыях. Захад ніколі не будзе ў стане даць беларускаму рэжыму такія сродкі, якія неабходныя для падтрымання яго сістэмы. Лукашэнка можа пазбавіцца гэтых расійскіх залежнасцей толькі праз адно: правядзенне эканамічных рэформаў, каб даць прастору для прыватнай ініцыятывы. Але ж ён баіцца, што эканамічныя рэформы пацягнуць за сабой палітычныя змены. Для яго эканамічны кантроль значыць і палітычны, і ніколі не такое не адважыцца. Няхай толькі падымуцца сусветныя цэны на нафту і газ, адразу Лукашэнка будзе стаяць каля Спаскіх варот Крамля на каленях, стукаючы ў гэтыя вароты і просячы: упусціце мяне, я гатовы на ўсё. Усе гэтыя забавы заходніх палітыкаў у вачах беларусаў, па-за здрадай імі еўрапейскіх каштоўнасцей, нічога не значаць і нікуды не вядуць.

**— А як можна кансалідаваць беларускую апазіцыю?**

— На жаль, я лічу, што ўсіх тых, што змагаюцца за рэальныя змены ў Беларусі, не ўдасца аб'яднаць. Частка прадстаўнікоў беларускіх дэмакратычных арганізацый проста стамілася. Яны не маюць сілы да рызыкі, да рэальнага супрацьстаяння ўладзе. Важна цяпер, каб звярнуцца да тых з іх, хто яшчэ не гатовы змагацца і звяртацца да актыўнай часткі грамадства, каб далучыла да іх, каб разам працаваць над зменамі. Мы павінны быць гатовыя да гэтых драматычных падзей, якія, на жаль, непазбежныя ў Беларусі. Да таго часу мы павінны мець моцна аб'яднаны, здольны да дзейнасці рух з лідарамі і аўтарытэтамі.

**— У чым могуць дапамагчы Польшча, Захад?**

— Я заўсёды кажу нашым заходнім партнёрам, што перш за ўсё тое, што яны маглі б зрабіць, гэта не здраджваць сваім каштоўнасцям, таму што Лукашэнка па-ранейшаму кажа, што няма свабоды, няма дэмакратыі, усё гэта глупства, гэта проста словы. Мы, у сваю чаргу, сваім жыццём, дзейнасцю доказваем нешта іншае: ёсць свабода, гонар, і ўсё тое, што з'яўляецца каштоўнасцю чалавечага жыцця. Сённяшнія лідары заходніх краін, якія ў вачах беларусаў здаюцца быць увасабленнем дэмакратыі і свабоды, забаўляюцца з Лукашэнкам у тыя яго гульні і падтрымліваюць яго ныя думкі. На самой справе дапамагаюць Лукашэнку, пацвярджаючы яго рацыі. Мы, аднак, павінны рабіць сваю справу, але ў дадзеным кантэксце нам больш цяжка.



■ Справа: Франак Вячорка і Алесь Зарэмбюк на фоне стэнда «АртСядзібы»

## Важна крытычная маса

Разам з Наталляй Панчанка, заснавальніцай варшаўскага Цэнтра ўкраінскай культуры і старшынёй нефармальнай арганізацыі «ЕўраМайдан Варшава» (збірае сродкі для ўкраінскіх бежанцаў і салдат) з'явіўся на сцэне Франак Вячорка, беларускі грамадскі і палітычны дзеяч маладога пакалення, журналіст. «Ніве» сказаў ён:

— Канцэрт з'яўляецца ўнікальнай падзеяй, якой няма дзе-небудзь у свеце, і з'яўляецца самай важнай у свеце, прысвечанай Беларусі. Я вельмі рады, што палякі памятаюць, што няшчасныя беларусы кінуты на расправу гіганцкай імперыі і бязлітаснай дыктатуры. Такія канцэрты даюць магчымасць убачыць паралельную рэальнасць, набраць станоўчай энергіі, наладзіць кантакты і імпульс для далейшай дзейнасці па прасоўванні дэмакратыі ў Беларусі.

Успамінаючы аб прэзідэнцкіх выбарах 11 кастрычніка, Франак Вячорка адзначыў:

— Нічога не зменіцца. Гэта проста рытуал. Украінскі Майдан паказаў, што для перамен у краіне выбары непатрэбныя. Я чакаю, перш за ўсё, перафарматавання дэмакратычных сіл у Беларусі, каб паказаліся новыя людзі, новыя твары, і каб быў дадзены новы штуршок пераменам у Беларусі. У нас ёсць станоўчы прыклад украінскага Майдана, трэнд адраджэння беларускай культуры (кампанія вышыванак, арганізацыя курсаў беларускай мовы, і г. д.), і гэта тое, што можа прывесці да палітычных перамен у Беларусі. Лідарам гэтых змяненняў можа быць хто-небудзь: і Мікалай Статкевіч, і Уладзімір Някляеў, і Зянон Пазьняк, і нават абстрактна Кастусь Каліноўскі. Няважныя асабістыя даныя. Важна, каб была крытычная маса, агульная стратэгія, яснае бачанне, у якім кірунку мы глядзім, у імя чаго мы змагаемся. Майдан, падзеі ў Арменіі і пратэсты ў Малдове паказалі, што без аднаго лідара можна дабівацца ў сваіх патрабаваннях.

Мы таксама сустрэлі, між іншым, Андрэя Саннікава, аднаго з апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі ў 2010 годзе, які пасля трапіў пад палітычны пераслед:

— Канцэрт вельмі патрэбны, таму што гэта падтрымка за свабодную Беларусь, свабоду ў Беларусі. Тым больш каштоўны і важны цяпер, калі ўвага ўсяго свету прыкавана да Украіны.

Мы спыталіся:

— А ці нешта зменіцца пасля 11 кастрычніка ў Беларусі?

Андрэй Саннікаў адказаў паўжартам:

— А ці штосьці адбываецца ў Беларусі 11 кастрычніка?

(працяг будзе).

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Будучыня забытага парку

**Няшмат засталося з крынскага маёнтка дэ Вірыёнаў. Паміж кустамі і дрэвамі-самасейкамі скрываюцца яшчэ каменныя сцены быццам крыжацкага замка, напрыклад, у Лідзбарку-Вармінскім. Рэдка сустракаюцца там жывыя душы, а з-за блізкага суседства з каталіцкім могільнікам, зарослымі дворскімі алеямі, мабыць, праходжваюцца цяпер у асноўным каталіцкія нябожчыкі.**



Паводле аўтара кніжкі „Крынкі ў 1795-1918” (Гародня 2010) Віталя Карнелюка, Іван Карлавіч дэ Вірыён — падкаморы і кавалер ордэна св. Уладзіміра, сын надворнага стацкага саветніка набыў крынскі двор у 1834 годзе. У 1796 годзе цар Павел I надаў у „спрадвечнае і спадчыннае валоданне” землі Крынак некалькім рускім памешчыкам, у тым ліку былому сенатару Паўлу Рыгоравічу Дзівову і сапраўднаму стацкаму саветніку і сенатару Івану Аляксеевічу Сакалову. Менавіта той апошні прадаў свой двор дэ Вірыёну. У 1944 годзе Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення перадаў маёнтак мясцовым земляробам і рэпатрыянтам з Рэспублікі Беларусь.

Аўтарам першага плана добраўпарадкавання дворскага парку з'яўляецца 78-гадовы Фабіян Цірук, былы дырэктар крынскай школы і першы крынскі войт пасля палітычнага перавароту ў 1989 годзе. Зацверджаны ваяводскім захавальнікам помнікаў даўніны ніколі не выкарыстаны план да сённяшняга дня зберагаецца ў крынскай гарадской управе.

— Наведаў нас тады прэзідэнт Качароўскі, — кажа Фабіян Цірук. — Разам з госцем і старшынёй Гміннай рады напісалі мы пісьмо пражываючаму ў ЗША дэ Вірыёну з просьбай даць дазвол на добраўпарадкаванне парку. Яго адказ быў кароткі: „Пакуль жыву, нічога рабіць не дазволю”.

Спадар Цірук усё-такі не перастаў апекавацца паркам. Пасылаў туды з касою спадара Лісоўскага. Але, як сам прызнаецца, за апошніх больш чым дваццаць гадоў усё зарасло.

Яго жонцы Ядвізе, 1940 года нараджэння, былой крынскай настаўніцы, пра дэ Вірыёнаў распавядалі мама і бабуля. У дзяцінстве часта гуляла яна ў дворскім, ужо апусцелым, парку.

— Разам з братамі заглядалі мы ў дворскі склеп, гаварылі, што там пачынаўся падземны тунель, якім можна было перайсці на каталіцкія могілкі, — успамінае спадарыня Ядвіга. — У гэтым тунелі я ніколі не была, надта баялася. Двор дэ Вірыёнаў стаяў на ўзгорку. Помню яшчэ яго руіны. Былі там таксама два вялікія будынкі для дворскай службы. У адным жылі Карпачы і Юдзіцкія (мабыць з недалёкіх Ёдзічаў, цяпер у Рэспубліцы Беларусь), у другім — Храбакі, Галубовічы і сям'я, прозвішча якой ужо не помню. Усе яны — прыезджыя, але прыжыліся тут назаўсёды. Дабрацца да іх можна было дарогай, якая пачыналася паміж будынкамі насупраць касцёла і вяла праз мост на рацэ Крынцы.



■ Старшыня Гміннай рады ў Крынках Юзэф Станіслаў Чарнецкі і ініцыятарка аднаўлення парку Малгажата Грабоўская-Снарская



■ Ядвіга Цірук



Тады Крынка была нашмат большай, чым цяпер, а выплывала яна менавіта з дворскага парку. Двор ахутвала некалькі крыніц, якія, на жаль, ужо пазарасталі. Няма таксама вялікай, рыбнай сажалкі і балота. Знаходзіліся яны ў месцы створанага ў васьмідзясятых гадах вадаёма. З сярэдзіны балота, абкладзенага драўляным калодзежным зрубам, струменем выцякае крыніца. Каб начэрпаць вады, трэба было прайсці па драўлянай кладцы. Крынічная вада была настолькі смачнай і халоднай, што ад аднаго глытка кружылася ў галаве. Няма ўжо гэтай дарогі, ні кладкі, ні прыгожага моста. Усё знішчылі.

А яшчэ спадарыні Ядзі запомніліся цудоўныя дворскія сады з надзвычай смачнымі яблыкамі, агароды з рэдкімі гатункамі дэкаратыўных кустоў і ліпавыя алеі. Сёння пабачыць можна толькі астаткі гэтых апошніх.

— Пасля вайны гэты свіран яшчэ стаяў, — глядзіць на апошнюю руіну дворскага дзядзінца спадарыня Ядвіга, — але хутка яго разабралі. Усё парасцягалі мясцовыя. Ведаю нават прозвішча людзей, якія з гэтага свірна хату сабе паставілі. Тады Крынкамі ўпраўлялі не крынчане, а перасяленцы з навакольных вёсак. Яны не ведалі, што такое старая архітэктура ці сямейная памятка, зусім гэтым не цікавіліся. Раскрадалі і прапівалі ўсё. Якія ж цудоўныя хаты стаялі па вуліцы Сакольскай. У адной шматпавярховых пасля вайны некалькі сем'яў пасялілася. Па дарозе ў школу часта заглядалі мы ў прыгожы банк па вуліцы Бэма. Помню яго драўляныя, дэкаратыўныя дзверы. А колькі цікавых будынкаў захавалася вакол рынку. Панішчылі ўсё, што найлепшае, найбольш вартаснае. Недзе гэта прадавалі альбо бралі сабе, каб, для прыкладу, печку паставіць. Ніхто не пільнаваў. Трыццаць гадоў таму разабралі таксама стары двор. Ён быў сапраўды вялікі. Дакладна знаходзіўся ў месцы цяперашняй школьнай спартыўнай пляцоўкі па вуліцы, менавіта, Стары Двор. Жыла ў ім, між іншым, настаўніца, спадарыня Кавалеўская.

Спадарства Цірукі прыйшлі ў дворскі парк, каб падтрымаць новую ініцыятыву пад загалоўкам „Давай сустрэнемся ў старым парку і пагутарым пра яго будучыню”. Але не гутарка была тут галоўнай. Перш за ўсё трэба было ўзяцца за працу і ачысціць тэрыторыю парку ад смецця. Удзел у акцыі прынялі, у асноўным, моладзь і настаўнікі мясцовай школы. Прыйшлі таксама бацькі школьнікаў.

Ініцыятаркай акцыі з'яўляецца архітэктарка Малгажата Грабоўская-Снарская з Беластоцкага аб'яднання архітэктараў „Ваколіца”. Год таму наведала яна парк, прайшлася дубовымі алеямі і... закахалася. Закахалася з першага позірку. Потым знайшла цікавыя праекты, звязаныя з аднаўленнем такога тыпу аб'ектаў. Яе праграму фінансуе Нацыянальны фонд зберажэння асяроддзя і воднай гаспадаркі.

— У гэтым годзе высячам некалькі інвазійных гатункаў самасеек, — рашае спадарыня Малгажата. — Калега з Майстэрні дзеля ўсіх жывых істот правядзе нам неабходную, прыродную інвентарызацыю. Свае дзеянні абапіраем на супрацоўніцтва з крынскай гарадской управай. Ад гэтага залежаць нашы далейшыя планы. Вядома, абшар вялікі, грошай спатрэбіцца сапраўды шмат. Плануем зладзіць падобнае мерапрыемства ў красавіку будучага года. Цяпер разам са школьнікамі прыбралі мы 4 гектары паркавай тэрыторыі, усё астатняе пакінулі на красавік. Тады ўручым таксама ўзнагароды пераможцам конкурсу, да ўдзелу ў якім запрашалі мы сёння. Яго тэма — ўява будучыні парку.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Дзесяцігоддзе «Пячэння бульбы» ў Сопаце

Восень то, між іншым, час пячэння бульбы. Чытаю карэспандэнцыю Уладзіміра Сідарука «Пячэнне бульбы» («Ніва» № 39) і даведваюся, што Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях цыклічна ў палове верасня арганізуе ў Рэпчычах мерапрыемства «Пячэнне бульбы». Да таго ладзіцца яшчэ «Бульбафэст» у Ліпінах.

А мы тут, як БТК «Хатка», на Прымор'і, а больш дакладна ў Сопаце пры вуліцы Мікалая Рэя, таксама цыклічна сустракаемся, можа не на мерапрыемстве, а больш на сяброўска-сямейнай сустрэчы, для якой нагодай з'яўляецца пячэнне бульбы. А прытым можна падзяліцца ўражаннямі ад мінулага гарачага лета. Ці то з пабыўкі ў санаторыі — гэта сеніёры, ці з іншых вандровак



па Польшчы ці Еўропе. Цікава, што пра палітыку і палітыкаў, нягледзячы на гарачы перадвыбарчы час — пячэнне бульбы адбылося 3 кастрычніка — ніхто не гаварыў. Не значыць, што беларусаў Трыгорада тэма выбараў не цікавіць, але суботні пасляабедні час больш спрыяў адпачынку і сяброўскай гаманлівасці. Надвор'е спрыяла сустрэчы, нават ніхто не дапытваўся, ці маем дазвол паліць вогнішча ў лесе, хоць, вядома, што без дазволу пячэння не было б. Калі я праглянуў гэтак званую «дакументацыю» пячэння бульбы ў форме просьбы да лясніча Лясніцтва Сопат пана П. Бараноўскага даць дазвол распаліць вогнішча, то выявілася, што ў гэтым годзе мінула якраз дзесяцігоддзе нашага «Пячэння бульбы».

**Міхась КУПТЭЛЬ**

Барбага ГАРАЛЬЧУК

## Лета. Адпачынак

Праменні сонца ліжуць цела,
Лета бушуе ў збажах.
І хоць бы вецярок павеяў...
Па-над зямлёй стаіць жара.

На берагу ракі дзяўчаты
Смяюцца ўголас і пішчаць.
Вада халодна абмывае
Іх разагнёных целаў стаць.

Салодкім араматным цветам
Канюшына зацвіла
І ластавачка чорным крылам
Бляклае неба працяла.

У агародзе цень глыбокі
І ціха яблыня шуміць...
На гушкалцы, закрыўшы вочы,
Гаспадар з катом сядзіць.


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Дзень настаўніка ў Арэшкаве



Дзень настаўніка — вялікае свята! Як павіншавалі вы сваіх настаўнікаў? Ці памяталі пра духоўныя падарункі? Падарункі, якія грэюць душу і выклікаюць усмешку на твары. Якраз, калі мы завіталі ў Арэшкава, там вывучалі святочны рэпертуар. Дзеткі, пад кірункам настаўніцы Ірэны Герасімюк, грымнулі песеньку «Настаўнікі».

— А ведаеце, хто напісаў словы гэтай песні? — спыталі мы нашых сяброў.

— Тааааааааак, — пачулася ў адказ, — паэт Віктар Швед!

Гэтага паэта ведаюць яны не толькі са старонак «Зоркі». Ён неаднойчы прыязджаў у школу, апавядаў пра жыццё, чытаў свае вершы. Жывым чытанкам дапамагае прырода. Праз вокны школы можна назіраць Белавежскую пушчу. Паколькі ў дзверы «пагрукала» восень, дзеткі размаўлялі пра змены ў прыродзе. Дзяўчынкі з арабінкі нізалі каралі для лялек і адначасова засвойвалі беларускія назвы колераў і дрэў. Паўтаралі вершыкі і загадкі. Усё гэта прыдасца. Цягам навучальнага года яны прымуць удзел у многіх конкурсах, такіх як «Гавэнда», «Роднае слова», падрыхтуюць беларускую пастаноўку на Каляды. Таксама кожны тыдзень яны прымаюць удзел у беларускіх конкурсах «Зоркі».

Хоць Непублічная школа ў Арэшкае найменшая на Падляшшы — тут усяго 18 дзетак, вучні і настаўнікі не апускаюць рук. Наадварот, яны трымаюць высокі ўзровень навучання, прыгожа і цікава прэзентуюцца ў асяроддзі, заяўляюць пра сваю прысутнасць. Тут таксама працуюць адданыя дзеткам настаўнікі. Вось настаўніца музыкі Марта Вяршко даязджае ажно з Беластока. Гэта амаль дзвесце кіламетраў у абодва бакі. Як тады не падрыхтаваць такім настаўнікам духоўных падарункаў?

А вы падрыхтавалі сваім настаўнікам беларускія падарункі?

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

*Зузанна КАРДЗЮКЕВІЧ, Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## Прычоска

*Такая модная — марская.*
*Бровы цёмныя, а вейкі рэдкія.*
*У шчоках ямачкі.*
*На твары — усмешка.*
*Вочы — блакітныя як неба.*
*А носік нібыта з хлеба.*
*Шырокі,*
*Доўгі,*
*Прамы,*
*Белы.*
*Што тут з ім рабіць?*
*Доктар не ведае.*
*Ён лялек не лечыць.*

## ЯСЕНЬ

Расце бы да неба ясень.
Даўгажыхар, красен і ясен.
Коранем дастане вадзіцы,
а на кроне дасць птушцы расіцы.
На вяршыне сядзіць
арол мудры і сочыць,
Што ж у двух светах бачаць яго вочы?
З ясяневай пруткай драўніны
яшчэ скіфы воінаў сваіх збраілі,
калі ў віцях пасылалі яго галіну,
пра вайну так перадавалі навіну.
Ды па-людску, каб для чалавека,
і пра гэта шэпча ясень ад веку,
выраблялі з моцнай драўніны
рэчы ў кожную здатны хвіліну:
мэблю, лодкі, і лыжкі, і міскі,
і для дзетак ясянёвы калыскі.

**Міра ЛУКША**

## УВАГА КОНКУРС! № 42-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 1 лістапада 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Без нары не можа жыць,**
**хвост пушысты мае,**
**як ад ворага бяжыць,**
**след ім замятае.**
**Л.....**

**Ці то ў будні,**
**ці то ў святы —**
**Носіць свой кажух багаты.**
**А яна ж яго не шыла**
**І за грошы не купіла.**
**А.....**

**Адказ на загадкі № 33-15: Маланка, ластаўка. Узнагароду, запісную кніжку, выйграла Мая Радзішэўская. Віншуем!**

*Вікторыя ПАТОНЕЦ*
*Старое Ляўкова, ПШ у Нараўцы*

## Каляровыя лісточкі

*Каляровыя лісточкі*
*Заслалі дарожкі.*
*Людзі іх нагамі падкідаюць,*
*А яны толькі шалясцяць*
*І на свет знізу глядзяць.*
*Які свет прыгожы і каляровы*
*Праз асенні лісточак!*

# НОВЫ ШКОЛЬНЫ ГОД, НОВЫЯ ВЫБАРЫ



Пачаўся новы навучальны год. Усе мы вяртаемся ў школы, да вучобы..., але і да сваіх сяброў, якіх мы маглі не бачыць цэлыя канікулы. Вяртаемся да настаўнікаў, якіх урокі мы вельмі любілі.

Не можам думаць, што школа гэта дрэнная рэч. Яна дае нам штосьці, чаго нам ніхто не забярэ — веды. Трэба чэрпаць з гэтага як найбольш. Школа гэта таксама час, у якім мы дарастаем, сталеем. Усё, што мы цяпер робім, уплывае на нашую будучыню.

Крыху менш сур'ёзныя, але таксама важныя прычыны, для якіх варта хадзіць у школу — гэта нашы сябры. Гэта людзі, якія найбольш западаюць нам у памяць. Дзякуючы ім, маем добрыя (і дрэнныя) успаміны. Дык няма чым хвалявацца — нават з гэтых дрэнных рэчаў калісьці будзем смяяцца.

Варта нагадаць таксама пра нашых настаўнікаў, якія кожны дзень мучацца разам з намі. Гэта яны перадаюць нам мудрасці нашага свету, стараюцца, каб мы выраслі на добрых людзей. Таму варта падарыць ім хаця кветачку ў іх дзень — 14 кастрычніка. Няхай ведаюць, што для нас яны вельмі важныя, што мы іх шануем і цешымся, што яны разам з намі.

У час школы мы можам пабачыць кавалачак свету, а напэўна нашую Польшчу. Гэта дзякуючы экскурсіям. Мы адну ўжо «залічылі». Была гэта 21 Выстаўка грыбоў у Белавежы. Мы там паехалі даведацца штосьці новага, пабачыць незвычайныя грыбы, але таксама мы былі валанцёрамі — мы дапамагалі ў правядзенні конкурсаў на тэму грыбоў. Мы вельмі шчаслівыя, што маглі так актыўна правесці суботу. Гэта быў такі прыемны спосаб на навуку.

Але школа — гэта і цяжкія выбары. Для трэціх класаў гімназіі такім выбарам з'яўляецца сярэдняя школа. Колькі з нас ужо гэта перайшло.

Найважнейшае, каб кіравацца сэрцам і сваім розумам, не слухаць замнога іншых. Ваша будучыня ў вашых руках, а не ў руках іншых людзей. Ведайце — трэба выбіраць тое, што вы любіце, не звяртайце ўвагі на гэта куды накіроўваюцца вашы сяброўка ці сябар, або ў якой адлегласці знаходзіцца школа, пра якую вы марылі. Памятайце, што вашы бацькі зробяць усё, каб вы былі шчаслівыя і каб вам вялося ў жыцці як найлепш. Школа гэта важная рэч — мудрасць гэта ваша сіла.

Перад кожным з нас такія выбары. Мы — першакласнікі ліцэя першы такі выбар маем за сабою. Але цяпер будзе толькі цяжэй — тры гады цяжкай навукі, матуральны экзамен і выбар вышэйшай навучальнай установы. Я выбрала белліцэй у Гайнаўцы, таму што магу далей вывучаць беларускую мову — мову маёй сям'і.

Жыццё ставіць перад намі розныя выбары. У гэтых выбарах кіруемся сваімі магчымасцямі, зацікаўленнямі і думкамі пра сваю будучыню.

## Спадчына

*Спадчыну нашых продкаў —*
*цаніць і шанаваць трэба.*

*Тое, што кажуць нам дзяды —*
*верыць і памятаць трэба.*

*Так ужо ёсць, што старэйшыя*
*больш за нас ведаюць.*
*Гэта яны твораць і*
*пераказваюць нашу гісторыю.*
*Гэта яны развіваюць і*
*паказваюць нам культуру.*

*Нашыя бабулі і дзядулі —*
*найцудоўнейшыя людзі на свеце.*

*Спадчыну нашых продкаў —*
*цаніць і шанаваць трэба.*

*Тое, што кажуць нам дзяды —*
*верыць і памятаць трэба.*

**Наталля Васько**
*Першы клас Гайнаўскага белліцэя*

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА"!

Мы з'яўляемся вучаніцамі першага класа Гайнаўскай белгімназіі. У нашым класе 17 дзяўчат і 11 хлопцаў. Усе мы вывучаем беларускую мову. Нядаўна наш клас пабываў у Беларускім музеі. Там мы глядзелі спектакль у выкананні лялечнага тэатра з Беларусі. Галоўным сюжэтам п'есы была любоў вожыка і кошкі. Пасля нейкага часу кошка пакінула вожыка і звязалася з тхаром. Адзінокі вожык трапіў у бальніцу і памёр. Гэтая гісторыя схіліла нас да роздумаў аб сяброўстве і вернасці.

Наталля Назарук
Юлія Абрамовіч



## Вершы Віктара Шведа



### Калумб

Настаўнік спытаў Сярожу:
— Што аб Калумбе
сказаць можаш?
— Не даведаўся, на здзіў,
Куды ўжо ён прыплыў.

І не ведаў таксама скуль
Ён вярнуўся адтуль?
І аб гэтым па скон
Не даведаўся ён!

### Малы курэц

Паліцэйскі спытаў Ваню:
— Ці ты курыш не зарана?
— Не зарана,
— ён паўтарае, —
Ужо поўдзень дабягае.

— А падай, курэц заўзяты,
Нараджэння свайго дату!
— Роўненька з маймі гадамі
Бацька мой курыў таксама.

## Польска-беларуская крыжаванка № 42-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 38:**

Граб, Лі, задача, аднова, бок, Урал, боб, школа, раса, тон, на, Іра. Абора, аздоба, банк, шар, павук, чарот, ало, лан.

Узнагароды, сумкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі **Магда Бяляўская**, **Карнэлія Барэчка** і **Наталля Лукша** з Нараўкі; аўтаручкі — **Сара Скаўронская** з Беластока і **Рафал Новік** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Szpalta | | | Chińskie imię / Jan | | Sok | Nakaz | | Kobyła |
| | Jak / Wianek | | Wiąz / Hop | | | | Dok / Ala | | | |
| Jar / Wagon | | | | | | Arka | | | | |
| | | | | Iwo / Koła | | | | | | |
| Wieś / Kierunek | | | | | | | | | | |
| | | | Usta | | | Om | | | | |
| Nos / Mapa | | | | | | Jazda | | | | |

# Айцец Антоній Дзевятоўскі — малітоўнік і будаўнік цэркваў

**28 верасня 1995 года памёр дэкан Гайнаўскай акругі і настаяцель Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы мітрафорны протаіерэй Антоній Дзевятоўскі. Пад яго наглядам былі збудаваны ажно чатыры царквы ў Польшчы і адна ў Беларусі. Падчас Другой сусветнай вайны айцец Антоній на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі актыўна займаўся адраджэннем духоўнага і беларускага нацыянальнага жыцця, зруйнаванага раней савецкімі ўладамі. У Гайнаўскім прыходзе айцец Антоній стаў штодзень служыць літургію і многа маліцца, аб чым 27 верасня ўспаміналі сабраныя ў зале гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва святых Кірылы і Мяфодзія, што знаходзіцца ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. Раней у саборы святары і вернікі маліліся за ўпакаенне душы айца Антонія Дзевятоўскага падчас літургіі і паніхіды, прымеркаваных да 20-годдзя з дня яго смерці.**

— Айцец Антоній быў вялікім малітоўнікам. У нашай царкве стаў штодзень служыць літургію, што з'яўляецца вялікай ахвярай, якая патрабуе адпаведнай падрыхтоўкі і штодзённых дадатковых малітваў. Зараз няма ў нас такіх святароў, якія служылі б літургію штодзень. Гэтага не любіў д'ябал і стаў перашкаджаць айцу Антонію. Старэйшыя людзі памятаюць як на яго частка нашых людзей крычала, як яго крытыкавалі і нават ганілі. Ён пакорліва нёс свой крыж, будаваў сваю царкву духоўную і рабіў сваё, — стаў расказваць у пачатку спаткання благачынны Гайнаўскай акругі, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, які добра ведаў айца Антонія і разам з ім служыў у Свята-Троіцкім саборы. — Айцец Антоній расказваў мне пра сваё жыццё, успамінаў, як займаўся адраджэннем духоўнага жыцця падчас Другой сусветнай вайны на акупаванай немцамі Беларусі. Тады адчыняліся там праваслаўныя цэрквы, закрытыя пры савецкай уладзе. Айцец Антоній ездзіў па розных мясцовасцях, служыў там і хрысціў. Нават, калі яго матушка Валянціна нарадзіла дзіцё, айца Антонія не было дома, паколькі ездзіў і масава хрысціў людзей.

Айцец Антоній падчас Другой сусветнай вайны служыў перш за ўсё ў Ігумене каля Мінска, дзе з дапамогай вернікаў будаваў царкву.

— Мала хто ведае, што айцец Антоній прымаў удзел у адраджэнні ў Беларусі беларускага нацыянальнага жыцця, аб чым сказаў мне пазней. Калі ў беларускім выданні ў нас паявілася інфармацыя аб Беларускім саборы ў Мінску, які адбыўся падчас нямецкай акупацыі, айцец Антоній сказаў мне, што прымаў у ім удзел. Калі мы з айцом Антоніем і прыхаджанамі ездзілі ў паломніцтва, то айцец Антоній гаварыў нашым людзям, што трэба трымацца сваёй мовы і шанаваць яе, — сказаў айцец Міхаіл Негярэвіч.



■ Мітрафорны протаіерэй Антоній Дзевятоўскі



■ З дакладам пра айца Антонія Дзевятоўскага выступіла дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц

Падчас сустрэчы з дакладам аб жыцці і дзейнасці мітрафорнага протаіерэя Антонія Дзевятоўскага выступіла дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц, якая ў асобнай кніжачцы «Антоній Дзевятоўскі» апісала жыццё і дзейнасць айца Антонія.

— Айцец Антоній перамагаў зло дабром і пакорай. У яго былі вельмі невялікія жыццёвыя патрабаванні. Мала еў, мала спаў і вельмі многа працаваў. Апекаваўся ён таксама патрабуючымі, — сказала між іншым Ала Грыц, якая збірае біяграфічныя матэрыялы пра яго.

Айцец Антоній нарадзіўся ў 1917 годзе ў вёсцы Варапаева, на Полаччыне, у сям'і народнага беларускага паэта Кірылы Дзевятоўскага і яго жонкі Варвары. Духоўную адукацыю здабыў у Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Вільні і стаў святаром у 1938 годзе. Працягваў адукацыю ў Варшаўскім універсітэце на аддзяленні праваслаўнай тэалогіі. Навуку спыніла Другая сусветная вайна. Званне магістра тэалогіі здабыў намнога пазней, у 1961 годзе. Першым прыходам маладога святара быў Сноў каля Баранавіч, тады ў Рэчы Паспалітай. Падчас вайны айцец Антоній быў настаяцелем праваслаўнага прыхода ў Ігумене каля Мінска, дзе пад нямецкай акупацыяй, пасля савецкага прыгнёту, адраджалася духоўнае жыццё. Апрача будовы царквы ў Ігумене айцец Антоній хрысціў нават па некалькі дзясяткаў асоб у дзень. У 1942 годзе быў пераведзены ў Полацк і нават служыў у славутым Сафійскім саборы.

— Нават у снах я не марыў, што стану служыць каля алтара самай старэйшай і самай цудоўнейшай святыні ў гісторыі беларускага народа, сімвала праваслаўнай Беларусі, — пісаў ва ўспамінах айцец Антоній Дзевятоўскі.

Айцец Міхаіл Негярэвіч дабавіў падчас спаткання, што айцец Антоній быў апошнім святаром, які служыў у саборы ў Полацку падчас вайны перад закрыццём яго саветамі і пераўтварэннем у музей. Пасля айцу Антонію дапамагалі ў Беларусі, каб не арыштавалі яго савецкія органы. Іераманах Серафім з Жыровіцкага мужчынскага манастыра, які да вайны служыў у Курашаве (Чыжоўская гміна), падчас вайны быў накіраваны на акупаваную немцамі тэрыторыю Савецкага Саюза і там, так як айцец Антоній, хрысціў людзей і адбудоўваў царкоўнае жыццё. З вызваленнем гэтых зямель быў арыштаваны саветамі і замучаны, а нядаўна кананізаваны на свяшчэннамучаніка. Зараз молімся да яго, як да свяшчэннамучаніка Серафіма, архімандрыта жыровіцкага.

Адразу пасля вызвалення айца Антонія Дзевятоўскага накіравалі ў Плёскі, дзе з дапамогай прыхаджан разбудаваў часоўню на царкву і выконваў іншыя будаўнічыя працы. Пераехаўшы ў Гайнаўку ў 1951 годзе, айцец Антоній наглядаў за разбудовай Мікалаеўскай царквы (самастойны Гайнаўскі праваслаўны прыход быў адкрыты ў 1942 годзе), за будовай цэркваў у Арэшкаве (закончылася ў 1955 годзе), на гайнаўскіх праваслаўных могілках (закончылася ў 1953 годзе) і за будовай часоўні ў вёсцы Горнае (цяпер квартал Гайнаўкі). Аднак найбольш намаганняў айцец Антоній уклаў у будову Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, якая распачалася ў 1973 годзе і доўжылася каля 20 гадоў, хаця багаслужбы адбываліся ў саборы ўжо ў 1983 годзе. Патрапіў пры сацыялістычным строі ў Польшчы здабыць дазвол на будову так вялікай мураванай царквы, моцна ангажаваўся, каб раздабыць маладаступныя тады будаўнічыя матэрыялы і збіраць сродкі неабходныя для працягвання будаўнічых прац. Айцец Антоній Дзевятоўскі пабываў у многіх манастырах і цэрквах у Святой Зямлі і іншых святых месцах свету, адкуль прывёз у сабор многа часціц мошчаў. Вернікі з Гайнаўкі, якія самі наведвалі шматлікія манастыры ў свеце, дзівavaліся, як айцу Антонію лёгка ўдавалася пераканаць настаяцеляў праваслаўных манастыроў, каб перадалі святару з Польшчы часціцы мошчаў. Зараз часціцы мошчаў, перад якімі пакланяюцца вернікі, знаходзяцца ў спецыяльна выкананым машчавіку. Айцец Антоній распачаў таксама будову дзвюх чарговых цэркваў у Гайнаўцы, якія пасля яго смерці былі вылучаны са Свята-Троіцкага прыхода і сталі асновай для стварэння двух новых праваслаўных прыходаў у горадзе.

Айцец Антоній Дзевятоўскі і яго матушка Валянціна выхавалі двое дзяцей — Людмілу, якая працавала і жыла ў Гайнаўцы і сына Сяргея, які стаў святаром і быў настаяцелем праваслаўнага прыхода ў Сасноўцы. Апекаваліся яны таксама хроснай дачкой матушкі Валянціны, Яўфіміяй. Матушка Валянціна ўспамінала, што яе муж, айцец Антоній, ніколі не думаў будаваць нешта для сябе, а марыў яшчэ заснаваць і збудаваць у Гайнаўцы манастыр і дом міласэрнасці. Ала Грыц успамінала, як айцец Антоній дом міласэрнасці арганізаваў у сваім доме — апекаваўся двума хворымі святарамі і хворай матушкай, а таксама прымаў з прыхаджанамі дзетак, пацярпелых ад аварыі на электрастанцыі ў Чарнобылі.

У мінулым быў я на сустрэчы з Маркам Сабалеўскім у Гайнаўскім белліцэі, які ўстанавіў стыпендыю для лепшых ліцэістаў. На гэтую тэму таксама завязалася гутарка падчас спаткання ў саборы.

— Марк Сабалеўскі быў сваяком айца Антонія Дзевятоўскага па матушцы Валянціне (яе дзявочае прозвішча — Сабалеўская — А. М.). Ён таксама падчас вайны, як і айцец Антоній, займаўся адраджэннем беларускага нацыянальнага жыцця ў Беларусі. Марк Сабалеўскі дапамагаў здабыць дазвол на будову сабора, а пасля дапамагаў у яго пабудове. Устанавіў ён стыпендыю для лепшых вучняў Гайнаўскага белліцэя. Пасля яго смерці гэтую ідэю працягваюць яго сямейнікі, — гаварыў айцец Міхаіл Негярэвіч. — Айцец Антоній не патрабаваў многа для сябе, толькі клапаціўся пра іншых. Ён перамагаў дабрынёй і яму найчасцей удавалася рэалізаваць запланаванае. Айцец Антоній не гаварыў падчас пропаведзей так красамоўна, як некаторыя іншыя святары, але ў яго разважаннях і парадах быў глыбокі духоўны сэнс.

Айцец Антоній Дзевятоўскі ўвёў навучанне Божага закона ў сваім прыходзе. Да яго моладзь і дарослыя ішлі за духоўнымі і жыццёвымі парадамі. Пазней айцец Антоній стаў у парафіяльным доме арганізаваць спатканні для дарослых вернікаў. На адной такой сустрэчы ў пачатку дзевяностых гадоў айцец Антоній расказваў пра Статут Вялікага Княства Літоўскага.

— Мой дзядуля перабудоўваў Мікалаеўскую царкву, мой бацька працаваў пры будове Свята-Троіцкага сабора, а я рашылася збіраць і друкаваць матэрыялы пра айца Антонія Дзевятоўскага. На выгляд быў ён недаступны, суровы і не жартаваў. Аднак у непасрэдных кантактах з парафіянамі быў цёплы і адкрыты на іх, — сказала ў канцы сустрэчы дырэктар Ала Грыц.

На спатканне прыбылі святары Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы і шматлікія гайнавяне, якія ведалі айца Антонія, і людзі, якія толькі чулі пра гайнаўскага святара. Старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва святых Кірылы і Мяфодзія Кацярына Чурак у канцы спаткання падзякавала прысутным за ўдзел у сустрэчы, прымеркаванай да 20-годдзя з дня смерці айца Антонія Дзевятоўскага, якога астанкі пахаваныя ў ніжняй Антоніеўскай царкве сабора. Пры жыцці айцец Антоній атрымаў, між іншым, Ордэн Святой Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны, Крыж Кавалерскі Ордэна Адраджэння Польшчы ды бронзавую і сярэбраную адзнакі «Заслужаны Беласточчыне». Вуліца пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы названа імем айца Антонія Дзевятоўскага.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# На Яна ў Дуброве



У наш час дынамічных грамадскіх перамен можна з дня на дзень спадзявацца розных нечаканасцей. Вось, для прыкладу, выбраўся я ў Дуброву. Чыгункай. Расклад анансаваў поезд у Сувалкі, але на пероне стаяў цягнік, на якім мэтавай станцыяй віднела Саколка. Пытаю кандуктара, куды на самой справе той цягнік. І тут чарговая нечаканасць: поезд заедзе на станцыю Махнач, а там трэба будзе перасесці на іншы поезд, які прыедзе з Саколкі і паедзе ў Сувалкі. Так і было. А да таго ж бартавы дысплей і мегафон шмат дарогі падавалі дэзінфармацыю пра мінаныя прыпынкі. Да таго ж цягнік добранькі адрэзак часу прастаяў перад станцыяй Геніюшы, але далей паімчаў як трэба.

Падарожжа на восеньскім досвітку з'яўляецца раскошнай радасцю для душы. Прамяністая сонечная разведка абсыпае залацістасцю далікатныя аблокі. І яны, тыя аблокі, уяўляюць сабою такія візуальныя скерца і эцюды, больш павіслыя і хмурныя — накцюрны і ўсялякія іншыя фантазіі. У поймах рэк і ручайкоў серабрыцца туман. Восеньскай раніцай адбываецца на прыродзе жыццярадасны візуальны канцэрт...

Выбраўся я ў Дуброву ў дзень тамашняга прыходскага свята ў гонар Яна Багаслова. Вікіпедыя: „Parafia została erygowana 22 sierpnia 1985 po wydzieleniu z terytorium parafii w Jacznie. Cerkiew parafialną zbudowano w latach 90. XX w." Чаму заступнікам прыхода абраны менавіта Ян Багаслоў — не ўдалося мне даведацца. Факт: прыходу толькі трыццаць гадоў. Колішні Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Dąbrowa, m. nadetatowe, pow. sokólski, o 32 w. od Sokółki, domów 207, mk. 1438 t.j. 685 męż., 753 kob.; według wyznań 1132 izr., 264 kat., 29 mahom., 13 prawosł. (1880). Paraf. kościół katolicki Opatrzności Boskiej, z drzewa 1595 wzniesiony. Parafia katol. dekanatu sokólskiego: dusz 9431. Kaplica w Kamiennej". Пра царкву згадкі там няма.

Але пакуль што вярнуся да дуброўскай этымалогіі. Той жа Слоўнік так тлумачыў: „Niezmiernie rozpowszechnione nazwy: Dąbrowa, Dąbrówka, tudzież Dąbrowo, Dąbrówno, pochodzą prawdopodobnie od dawniejszej zaginionej nazwy „dąber". Spotykamy bowiem to końcowe „r" w nazwach zwierząt samców, odznaczających się siłą i dzielnością, jak żubr (ząbr, stąd Zambrów), tur, ogier; u ptaków nawet, jak kaczor, gąsior, tur". Якою жывінай быў той dąber, слоўнік не патлумачыў.

Аляксандр Брукнер: „Dąbrowa nic z dębem nie ma wspólnego; była debrzą, dołem zarosłym, zaroślami, gajem, a dla przypadkowego równobrzmienia z dębem przeszła na dębinę wcześnie, niemal u wszystkich Słowian, chociaż pierwotne znaczenie lasu, gaju, chyba tylko u nas zupełnie zapomniano. Słynny Dubrownik np. (Raguza, z swoim handlem i pisemnictwem) nazwany niby od dąbrowy, ależ nigdy tam żadnych dębów nie było, tylko zarośla szpilkowe, debrzy". Да апошняга слова кланяецца расейшчына: „Дебри, места, заросшие непроходимым лесом. Из первоначального значения глубокий, глубина, ущелье возникло последующее долина, поросшая лесом; сравни родственные литовские dubus „глубокий", duburys «глубина, яма»". Вось і аказваецца, што Дуброва займела сваю назву, магчыма, ад нетраў рачулкі Крапіўнай.

Яшчэ раз згаданы Слоўнік: „Tu dodać wypada, że nazwy Dąbrowa lub Dąbrówka często okazują się nieustalone dla pewnej danej miejscowości i bywają niejednokrotnie używane jedna za drugą". І Дуброва не мела адназначна вызначанай назвы: калісь, калі дзяржаўныя граніцы пралягалі па зусім іншых гарызонтах, называлася Дубровай-Гродзенскай. Вікіпедыя: „Dąbrowa Białostocka (dawniej Dąbrowa Grodzieńska) — miasto w województwie podlaskim, w powiecie sokólskim, siedziba gminy miejsko-wiejskiej Dąbrowa Białostocka, nad Kropiwną (lewy dopływ Biebrzy), w otulinie Biebrzańskiego Parku Narodowego. Z dniem 10 marca 1961 roku Dąbrowa Grodzieńska została przemianowana na Dąbrowę Białostocką."



■ Хрэсны ход у Дуброве

У канцы 1963 года побач Дубровы была пракладзена чыгунка, пабудавана чыгуначная станцыя. Новы горад стаў паўзці ў бок, менавіта, той новай станцыі. У выніку, каталіцкія могілкі, якія да таго часу былі на абочыне мясцовасці, трапілі ў акружэнне новых вуліц і збудаванняў, апынуўшыся такім чынам амаль у цэнтры мястэчка. А вось могілкі „спозненага" праваслаўнага прыхода давялося вызначыць за гарадскімі рысамі. І вось, злезшы з цягніка, падаўся я ў напрамку апошніх. Пракладзены звыш пяцідзесяці гадоў таму тратуар з вакзала ў горад зараз з'яўляецца своеасаблівым дакументам, які сцвярджае спад зацікаўлення будаванай з колішнім аптымізмам чыгункай. Пліткі тратуара паламаныя, зарослыя няўрымслівай траўкай. Выходжу за чыгуначную лінію, якая побач Дубровы пралягла ў глыбокім жолабе, і разглядаюся ў тым напрамку, дзе павінны знаходзіцца згаданыя могілкі. Побач каўтуна сасновага лесу заўважаю праваслаўны крыж. Падаюся туды спярша асфальтоўкай, што ў напрамку Ружанастока, а пазней адыходзячай ад яе вузенькай асфальтовачкай.

Згаданы лясок, як гэта ў нас у прынцыпе бывае, „аздоблены" рознай непатрэбшчынай. На новых могілках, як і трэба было спадзявацца, амаль усё новае, старога амаль няма. Тут маю на ўвазе, м.інш. алфавіт, якім апісаны эпітафіі. І нават здзіўляюся, што ёсць там сціпленькая доля кірыліцы; ну, працэнт-два...

Ад могілак дуброўская царква бачная як на далоні, недалёка, каля паўкіламетра. У яе напрамку распасціраецца раззалочаная ўжо пожня, таму рашаюся прайсціся напрасткі. З часам пожня канчаецца, а за ёю палетак руні і іншы акультураны палетак, на якім яшчэ ўсходаў не відаць. У маёй вясковай душы захоўваецца яшчэ табу, тая вясковая забарона таптаць пасевы, таму прашчаюся мяжою. Сённяшнія межы іншыя, чым калісь. Калісь выконвалі яны не толькі размежавальную функцыю, яны былі таксама шляхамі перамяшчэння, пратаптанымі сцежкамі. Цяпер жа людзі перамяшчаюцца на машынах, па асфальтоўках, а межы зарастаюць свабодалюбівай прыродай. І вось давялося мне прабірацца цераз кусты чарнобылю і каўтуны мятліцы. Далей зноў участак пожні, дзе шмат хацінак звярынак, норак, дзе хаваюцца ўсялякія палявыя насельнікі, сярод іх, магчыма, і той таямнічы dąber, які мог даць назву прылягаючаму да поля гораду.

Дуброўская царква выглядае звонку даволі непрывабліва, быццам ейным архітэктарам было нейкае народнае апалчэнне. На яе корпусе няма ніякіх знакавых ліній, якія б прыдавалі ёй нейкую стройнасць. Да таго ж бляшаны дах званіцы часткова аблезлы са страціўшай колер фарбы.

Зусім дыяметральна выглядае інтэр'ер царквы. Толькі з сярэдзіны відаць архітэктурны лад збудавання. Храм на плане арыгінальнага крыжа, дзе апсіда і бакавыя нефы з'яўляюцца паўкругамі, быццам храм збудаваны на плане кветкі з чатырох круглых пялёсткаў. І роспіс сцен царквы характарызуецца строгім мастацкім планам. На сценах фрэскі з выявамі стаячых святых: жанчын у жаночым нефе і мужчын у мужчынскім. А над тымі святымі вянок, сплецены з евангельскіх сюжэтаў: карціны напісаны ў адухоўленай усходняй манеры, напоўнены евангельскімі алегорыямі і містыцызмам. Да ўсяго таго шмат арабесак. Роспіс быў выкананы мастакамі з Беларусі.

Прыходскае свята сабрала каля сотні вернікаў, з якіх амаль усе былі ахрышчаны па-за Дубровай; значыць народ, якому за трыццаць гадоў, у сярэднім і пажылым узросце. Ну, дзень будзённы, школьная моладзь за навукай, а прычасцілася толькі двое малечаў. Адсутнасць дзетак пэўна была прычынай і таму, што каля царквы не было і „каляровых ярмаркаў"...

Калі мова пра містыцызм дэкору дуброўскай царквы, дык, магчыма, звязаны ён з асобай прыходскага заступніка. Даведнік: „Іаан Багаслоў, у новазапаветных легендах адзін з апосталаў, вучань Ісуса Хрыста, сын галілейскага рыбака Заведзея. Хрысціянская царква прыпісвае Іаану Багаслову шэраг твораў, уключаных у Новы запавет: чацвёртае Евангелле, тры пасланні і Апакаліпсіс". Менавіта апошні твор выклікае шмат хваляванняў, паколькі ў ім фантастычныя відзежы. Магчыма, што і апошні ў нашай Польшчы раздзел Канстытуцыйным судом пытання аб абразе рэлігійных пачуццяў быў выкліканы надта крытычнай трактоўкай ягонага найбольш містычнага твора...

Пра само свята столькі; пара падацца ў дарогу ў Беласток, а значыць спярша на дуброўскі аўтобусны вакзал. Даўней сапраўды быў там вакзал, а зараз ягоны будынак закрыты, аўтобусаў на суседняй вуліцы чакаюць жменькі пасажыраў. У тых ранейшых пачакальнях былі прадбачаны тыя адмысловыя ўстановы, куды, як гаворыцца, нават цар пехатою ходзіць. Зараз гэта закрыта. Еўрасаюзныя чыны вызначаюць розныя нормы харчавання, розныя нормы збору адкідаў, а вось, як мне здаецца, не дайшлі яны яшчэ да нарміравання прыбіральных устаноў. І тут вось, калі ў каго ўзнікне „патрэба", тады трэба і думаць, як з ёю справіцца. У Дуброве, шчасліўенька, такая ўстанова ёсць, але яе месцазнаходжанне вядомае толькі прывілеяваным. Недалёка тое месца аўтобусных стаянак, зараз за тамашнім касцёлам, куды лёгка дабрацца „царскім транспартам"...

Прыбіральня знаходзіцца зараз за касцельным мурам і з'яўляецца прыкладам сацрэалістычнага будаўніцтва, чыста сталінскага дызайну. Дзе жаночая, а дзе мужчынская часткі, там не пазначана, бо ж, здаецца, неўзабаве гэта не будзе патрэбным, бо полу не будзе вызначаць анатомія, толькі волевыяўленне. Адсекі там з бетоннымі сценамі і такой жа падлогай з круглай дзіркай у ёй. І тыя падлогі — няма на іх выгляд слоў... Перад касцёлам маладая жанчына замятала лістоўе, магчыма, такім чынам адбывала пакуту за нейкія грахі. І вось цікава, ці існуе такі грэх, пакутай за які было б прыбіранне прыбіральні...

Падарожжа аўтобусам у разгар дня ўсё ж такі не дастаўляе пасажыру такой адухоўленасці, як у свежы, чысты досвітак...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

wyborcza.pl

# Беларускі Нобель

## Даведка I

Святлана Алексіевіч народжаная 31 мая 1948 г. у Івана-Франкоўску (Станіслававе) ва Украіне. У 1950 г. бацька вайсковец, дэмабілізаваўся, і сям'я пераехала ў Мазыр. Бацька да студзеня 1954 г. працаваў у абкаме Палескай вобласці, пасля яе ліквідаванння — дырэктарам розных школ і адначасова настаўнікам гісторыі. Сям'я перыядычна пераязджала разам з новымі месцамі працы бацькі, у 1961 г. Алексіевічы пераехалі ў Петрыкаў. Святлана скончыла Капаткевіцкую сярэднюю школу Петрыкаўскага раёна (1965), працавала выхавальніцай Асавецкай школы-інтэрната, затым настаўніцай гісторыі і нямецкай мовы Белажэвіцкай сямігадовай школы Мазырскага раёна. У 1966 годзе працавала ў раённай газеце «Прыпяцкая праўда» (Нароўля). Скончыла аддзяленне журналістыкі БДУ (1972). Накіравана ў раённую газету «Маяк камунізму» (Бяроза). У 1973-1976 гг. працавала ў рэспубліканскай «Сельской газете», у 1976-84 — загадчык аддзела нарыса і публіцыстыкі часопіса «Нёман». Член Саюза пісьменнікаў СССР (з 1983). Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра (з 1989). З пачатку 2000-х гадоў да 2011 г. у эміграцыі, жыла ў Італіі, затым у Францыі і Нямеччыне. Піша на рускай мове, дэбютавала як журналістка ў 1975 г. Яна — аўтар кніг «У вайны не жаночае аблічча» (1985), «Апошнія сведкі» (1985), «Цынкавыя хлопчыкі» (1990). «Зачараваныя смерцю» (1993), «Чарнобыльская малітва» (1997), «Час сэканд хэнд» (2013). Яе кнігі перакладаліся на ўсе асноўныя еўрапейскія мовы.

Перад Нобелеўскай прэміяй Святлана Алексіевіч атрымала шмат іншых міжнародных прэмій, у іх ліку Прэмію Гердэра (Нямеччына, 1999), Нацыянальную прэмію крытыкі (ЗША, 2006), Прэмію Angelus (Польшча, 2010), Прэмію імя Рышарда Капусцінскага (Польшча, 2011, 2015), Прэмію міру Нямецкага кнігагандлю (Нямеччына, 2013). Узнагароджана французскім афіцэрскім Ордэнам мастацтва і літаратуры. У Рэспубліцы Беларусь не прэміявалася і не друкавалася ў дзяржаўных выдавецтвах цягам апошніх звыш дваццаці гадоў.

## Даведка II

Літаратурная Нобелеўская прэмія прызначаецца ўжо ад 114 гадоў. У гэтым жа перыядзе сем разоў ніхто не быў аб'яўлены лаўрэатам (1914, 1918, 1935, 1940, 1941, 1942, 1943), чатыры разы вылучаліся па дзве асобы адначасна (1904, 1917, 1966, 1974). Сярод 111 узнагароджаных пісьменнікаў было толькі 13 жанчын. Святлана Алексіевіч — чатырнаццатая па ліку жанчына з такім званнем. Двух пісьменнікаў не прыняло ўзнагароды: расеец Барыс Пастарнак у 1958 г. атрымаў Нобелеўскую прэмію за напісаны чатыры гады раней раман «Доктар Жывага» — расказ пра лёсы інтэлігенцыі ў да- і пасляравалюцыйнай Расеі. Камуністычныя ўлады палічылі твор антысавецкім і прымусілі аўтара адмовіцца ад узнагароды. Таксама француз Жан-Поль Сартр у 1964 г., толькі непрымушана, сам адмовіўся ад прэміі за аўтабіяграфічны раман «Слова», аргументуючы тым, што «пісьменнік не павінен быць увекавечаны пры жыцці і ўсе ўзнагароды абмяжоўваюць ягоную свабоду». Найчасцей прэмію ў галіне літаратуры атрымлівалі празаікі і паэты з англамоўнымі творамі — 27 разоў, французскамоўныя — 14, нямецкамоўныя літаратары — 13, пісьменнікі іспанскай мовы — 11, шведскай — 7, італьянскай — 6. Чарговая група лаўрэатаў узнагароды гэта славяне — 11, у тым ліку пяцёх расейцаў, чатырох палякаў, адзін серб і адзін чэх. Да спіску расейскіх літаратараў прылічваем Іосіфа Бродскага, які пісаў адначасна па-расейску і па-англійску. Аднак узнагароду ў 1987 г. атрымаў як грамадзянін Злучаных Штатаў Амерыкі. Па трох лаўрэатаў маюць кнігі на нарвежскай і дацкай мовах.

Апрацаваў Яўген ВАПА

2015 ПРАВА ВЫБАРУ

СТАЦЬ НАЗІРАЛЬНІКАМ

Аб кампаніі Навіны Справаздачы кампаніі Кантакты

Справаздача 2-га дня датэрміновага галасавання: Праўласныя назіральнікі спрабуюць нейтралізаваць назіральнікаў кампаніі "Права выбару-2015"

# http://pvby.org

У відэароліку „Białoruś — jak tam jest naprawdę?", які не так даўно выклаў у інтэрнэт малады польскі блогер Міхал Сікорскі, прыводзіцца даволі цікавае параўнанне выбараў у Беларусі з выбарамі ў Польшчы. Маўляў, усё вельмі падобнае — у нас, то-бок у Польшчы, вісяць агіткі і плакаты перадвыбарчыя, і ў Беларусі вісяць. Толькі ў Польшчы вісяць агітацыйныя матэрыялы за канкрэтных кандыдатаў, а ў Беларусі развешаныя паперкі заклікаюць людзей прыйсці на выбары. Але прынцыпова, паводле Міхала Сікорскага, розніцы паміж выбарамі ў абедзвюх краінах няма аніякай. У сваім „праўдзівым" рэпартажы блогер, па ўсім відаць, хацеў абвергнуць той негатыўны імідж Беларусі, што стварылі, паводле яго сцвярджэння, польскія журналісты.

Калі б спадар Сікорскі быў бы не блогерам, што не бачыць далей уласнага носа, а журналістам, які мусіць хоць трохі вывучыць прадмет уласнага расповеду, то ён бы задаўся вельмі простым і натуральным пытаннем: „А як вызначыць таго, за каго варта галасаваць, калі нават аніякіх партрэтаў у вочы не кідаецца, не кажучы ўжо пра прозвішчы кандыдатаў і іх заклікі?". І вось тут яму хочаш не хочаш, але прыйшлося б пашукаць адказы ў тых людзей, пра якіх аніякім чынам у „праўдзівым" відэароліку не ходзіць і да якіх час ад часу звяртаюцца журналісты з Польшчы, каб па магчымасці ўсебакова разгледзець сітуацыю. Гэта значыць, да беларускіх незалежных журналістаў і праваабаронцаў, калі ўжо грэбаваць меркаваннямі апазіцыйных беларускіх палітыкаў. І гэтыя людзі распавялі б блогеру Сікорскаму, які перабывае ў шчанячым захапленні ад падмеценых вуліц беларускіх гарадоў, што на беларускія выбары дастаткова толькі прыйсці на ўчастак для галасавання і там адзначыцца, а далей усё зробяць за цябе. Можаш нават бюлетэнь у скрыню не кідаць, а з'есці яго на вачах у членаў выбарчай камісіі і назіральнікаў, але свой голас за дзеючую ўладу ты ўжо аддаў. І тыя, каго няма ў відэароліку Сікорскага, магчыма, паказалі б яму сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе http://pvby.org, дзе нагадваецца ўсім, у тым ліку і недасведчаным блогерам, што з 1996 года ні адны выбары ў Беларусі не былі прызнаныя міжнароднай супольнасцю.

На тым жа сайце, які належыць назіральніцкай ініцыятыве „Права выбару", распавядаецца менавіта пра права выбару, якое, чаго не заўважыў Сікорскі, прынцыпова адрозніваецца ў Беларусі і Польшчы. То-бок у Польшчы можна прыйсці ці не прыйсці галасаваць, прагаласаваць за таго ці іншага кандыдата, а ў Беларусі засталося толькі права прыйсці на месца галасавання ці не прыйсці туды.

„Нашы галасы ў першую чаргу павінны лічыць. Калі нашы галасы не лічаць, наша будучыня вызначаецца без нашага ўдзелу і без уліку нашых інтарэсаў", — распавядаецца на сайце „Права выбару". Арганізатары кампаніі незалежнага назірання, якая аб'ядноўвае восем беларускіх палітычных і грамадзянскіх структур, заклікаюць далучыцца да іх, каб зрабіць як больш маштабнай і выявіць магчымыя парушэнні выбарчага працэсу.

„Толькі дзякуючы вашай актыўнасці мноства людзей зможа даведацца пра тое, як арганізуюцца і праходзяць выбары ў Беларусі, ці лічаць галасы выбаршчыкаў і ці магчыма рэальна назіраць за гэтым працэсам", — кажуць актывісты, якіх не ўбачыў у Беларусі „праўдзівы" блогер Сікорскі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Кароткі век навукоўца і беларускага дзеяча

# 130 гадоў з дня нараджэння Алеся Бурбіса

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, актор і рэжысёр Алесь Бурбіс нарадзіўся 8 кастрычніка (па новым стылі 20 кастрычніка) 1885 г. у Вільні. У нашу гісторыю ён увайшоў як адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра, аўтар даследаванняў па эканамічнай геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, сельскай гаспадаркі і банкаўскай справе.

Фактычна з маленства Алесь Бурбіс уключыўся ў беларускую нацыянальна-адраджэнскую дзейнасць. Стаў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). Яму было толькі васямнаццаць гадоў, а ён ужо быў сярод лідараў гэтай арганізацыі, працаваў у складзе Цэнтральнага Камітэта. У 1906 годзе БСГ арганізавала сярод насельніцтва масавыя забастоўкі ў аграрнай галіне. Асабіста Алесь Бурбіс арганізоўваў пратэсты ў Навагрудскім павеце. Давер да друкаванага слова сяляне мелі вялізны. Улёткі, якія распаўсюджвала Беларуская сацыялістычная грамада праз Беларускі сялянскі саюз, прымаліся як інструкцыя. Дзеіў Бурбіс і ў самім Менску, дзе апрача іншага працаваў над стварэннем прафесійных саюзаў. Ён здолеў за гэты час далучыць да менскіх прафсаюзаў габрэяў, распаўсюджваючы ўлёткі на ідыш. Расейскія ўлады шукалі арганізатараў пратэстаў і палявалі на агітатараў і арганізатараў акцый грамадзянскага непадпарадкавання. У жніўні 1906 г. Алеся Бурбіса арыштавалі каля мястэчка Шчорсы на Навагрдчыне. Ён быў зняволены і заставаўся ў турме ажно да сярэдзіны 1909 г., захварэў там на сухоты. Пасля вызвалення працаваў у Віленскім таварыстве сельскай гаспадаркі.

У 1915 г. Бурбіс перабіраецца ў Маскву, дзе пачынае працаваць у Народным банку. Пасля, адзін раз у 1917 г., а потым у 1918 г., яго арыштоўвалі ўжо органы савецкай улады. З 1918 г. Алесь Бурбіс — консул Беларускай Народнай Рэспублікі ў Маскве. З сярэдзіны 1919 г. ён працаваў у Народным камісарыяце земляробства Літоўска-Беларускай ССР, з сярэдзіны 1921 г. — намеснік народнага камісара замежных спраў БССР. Алесь Бурбіс удзельнічаў у распрацоўцы дамовы паміж БССР і РСФСР

Алесь Бурбіс быў не толькі выдатным грамадска-палітычным дзеячам, але і таленавітым рэжысёрам, выканаўцам камедыйных і драматычных роляў. Ён удзельнічаў у Першай беларускай трупе Ігната Буйніцкага, у Беларускім музычна-драматычным гуртку ў Вільні, у якім таксама бралі ўдзел браты Іван і Антон Луцкевічы. Бурбіс перакладаў польскія, расейскія, украінскія п'есы для пастановак на беларускай сцэне. Менавіта ён паставіў спектаклі „Па рэвізіі" (1906), „Пашыліся ў дурні" (1910) украінскага драматурга Марка Крапіўніцкага, „Залёты" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1915).

Алесь Бурбіс друкаваўся пад рознымі псеўданімамі ў „Нашай ніве" — Стары Піліп, А. Алексенка. У 1920 г. удзельнічаў у выданні беларускамоўнай газеты ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі — „Савецкая Беларусь", уваходзіў у яе рэдкалегію.

Памёр Алесь Бурбіс 20 сакавіка 1922 г. у Менску ўсяго ў трыццаць шэсць гадоў. Век яго быў кароткі. Пахаваны на Старажоўскіх могілках, пазней зруйнаваных савецкай уладай. Памяць пра яго ў Беларусі не ўшанавана ніяк.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Бежанства ў Варшаве

У аўторак, 6 кастрычніка, адразу пасля акафіста ў гонар святога мучаніка Гаўрыіла ў Цэнтры праваслаўнай культуры імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Варшаве (вул. свсв. Кірылы і Мяфодзія, 4) адбылося спецыяльнае культурнае мерапрыемства, прысвечанае стагоддзю бежанства 1915 года. Пасля кароткага ўвядзення, набліжаючага трагічныя падзеі з пачатку XX стагоддзя, юбілейныя ўрачыстасці пачала сустрэча з Барбарай Гаральчук, аўтаркай рамана «Надзея аж па гарызонт». Пісьменніца расказала пра шлях бежанцаў з яе радні — сям'і роднай бубулі. Ніхто больш дакладна і больш аб'ектыўна не расказаў бы пра цяжкасці і нягоды жыцця і дарогі асоб вырваных з роднай зямлі і адпраўленых у паняверку ў тысячы кіламетраў у глыб Расійскай імперыі, вычарпаных вайной. Неўзабаве сталі яны перад рэвалюцыйнымі зменамі і грамадзянскай вайной, у час якой перакуліўся вядомы ім лад жыцця. Голад, холад, цяжкая праца, хваробы і смерць блізкіх, сіроцтва на прасторах чужой, спачатку прывеплівай радзімы, пасля вяртанне тых, што выжылі, у зноў чужую новую айчыну, да таго, што было іхнімі вёскамі і хатамі, падыманне ўсяго з руін. Гэты трагічны лёс бежанцаў паказаны ў кнізе Барбары Гаральчук. Далейшы лёс у пасляваенны час аўтарка прадставіць у наступнай кнізе — «Мёд» — пра міжваеннае жыццё беларусаў Беласточчыны. Якой папулярнасцю і зацікаўленнем карыстаецца першы раман пра бежанства сведчыць тое, што чытачы па ўсёй краіне разабралі амаль увесь першы тыраж, і да канца года мае паказацца другое выданне «Надзеі аж па гарызонт». Кніжка напісана па-польску, але сустрэча ў ЦПК вялася амаль выключна «па-свойму», на што звярнулі ўвагу вядучаму а. Андрэю Леўчаку (таксама з вёскі Мокрае, як Барбара Гаральчук, толькі ў Карпатах) слухачы, хаця на сустрэчу прыйшлі не толькі спадчыннікі былых бежанцаў з Падляшша.

Слухачы пачулі пра бежанства 1915 года з успамінаў бабулі аўтаркі, яе разважанняў і ўрыўкаў з кнігі «Надзея аж па гарызонт», і неўзабаве пасля гэтага ўбачылі на свае вочы і адчулі атмасферу таго часу. Перад гасцямі ЦПК выступіў тэатральны гурт Беларускага музея ў Гайнаўцы з пастаноўкай «Бежанцы» ў рэжысуры Іаанны Стэльмашук-Троц — актрысы і заснавальніцы Таэтра «Чрэво». Прадстаўленне вельмі кранальна і цікава паказала тое, што здарылася з жыхарамі Падляшша і Холмшчыны падчас Першай сусветнай вайны. Спектакль, беззаганны ў мастацкім плане, хвалюючы і праўдзівы, выклікаў слёзы і буру апладысментаў. Аснаваны ён на кнізе пра бежанства Бажэны Дэм'янюк і іншых матэрыялах, між іншым на ўспамінах бежанцаў з кнігі «Бежанства 2015 года» (другі выпуск, пашыраны і дапоўнены, неўзабаве пабачыць свет) і ўспамінах удзельнікаў бежанства з партала www.biezanstwa.pl. Варта вялікай пахвалы акцёрская ігра вучняў бельскага і гайнаўскага белліцэяў — Магдаліны Гаўрылюк, Марыі Краўчык, Якуба Мацеюка і Міхала Скарбіловіча.

На сустрэчы быў прысутны Яго Блажэнства мітрапаліт Сава, які ўжо раней пазнаёміўся з кнігай Барбары Гаральчук (можна было яе набыць пад святой Гарой Грабаркай), які горача падзякаваў пісьменніцы і мастакам за труд, якога не пашкадавалі для таго, каб ушанаваць памяць нашых праваслаўных продкаў, падкрэсліўшы, што ён таксама з'яўляецца нашчадкам бежанцаў.

Урачыстасці ў ЦПК, прысвечаныя 100-годдзю бежанства, суправаджаліся выставай «Бежанства (Uchodźstwo) 1915. Супольная гісторыя», якая складаецца з архіўных фотаздымкаў з 1909 да 1923 года, падрыхтаванай Фондам князя Канстанціна Астрожскага.

(лук)

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | 2 | 3 | | | | | | |
| | 4 | | | | | | | 5 | | | 6 | | |
| | | | | | | | | 7 | 8 | | | | 9 |
| | | | | | | | | | | | | | |
| 10 | | | 11 | | | 12 | | | | 13 | | | |

1. вялікая рыбалоўная сетка ў... амерыканскім штаце побач Каліфорніі, 2. калектыўная „добраахвотная" работа ў савецкі час па нерабочых суботах, 3. Рыгор (1892-1978), беларускі фалькларыст з Пружаншчыны, 4. харвацкі порт між Сплітам і Рыекай, 5. кулінарны тлушч, 6. занятак вакаліста, 7. віно з яблычнага соку ў... рэчцы, што між Дубровай і Новым Дваром, 8. Клеменс (1838-1904), германскі хімік, адкрывальнік хімічнага элемента германія, 9. першы авіятар, 10. сталіца на Влтаве, 11. маёмасць, якую маладуха атрымлівае ад бацькоў, 12. будынак для лакаматываў і пажарных машын, 13. правы прыток Прыпяці, на якой Столін.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Жаба, зуб, Зюзя, калодзеж, лінь, Сід, туя, цемя, цыцка.

Рашэнне: **Цяжка саду без зязюлі, цяжка доньцы без матулі**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 18.10 — 24.10

**(22.03. — 20.04.)** 18-19.10. не ўспамінай старога і не перажывай, што штосьці страціў ці не выкарыстаў. 17-18.10. дзейнічай хутка, час поспехаў асабліва прафесійных. 17-20.10. атрымаеш цікавую прапанову. 21-25.10. цяжка табе будзе забыцца пра крыўды.

**(21.04. — 21.05.)** 21-25.10. пазнаеш усе смакі кахання. Вялікі прыліў жарснасці. Хопіць табе аматараў! З 23.10. (да 27.10.) маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці нявідным, які затое захопіць цябе інтэлектуальна. 17-19.10. можаш неаб'ектыўна ацаніць сітуацыю, можа падмануць цябе твой сябра. 17-20.10. і 23-24. 10. пабудзь з дзецьмі — будуць слухаць тваіх навук. Да 23.10. парабі ўсе стаматалагічныя і касметычныя працэдуры.

**(22.05. — 22.06.)** 17-19.10. належным чынам ацэніш спакой і памяркоўнасць партнёра, не будзеш сумаваць па чымсьці нерэальным. 20-24.10. станеш перад нялёгкім выбарам; не шукай у сваёй справе саюзнікаў, бо знойдзецца хтось, хто будзе бачыць толькі свой інтарэс. З 23.10. вельмі дбай аб сваё здароўе.

**(23.06. — 23.07.)** 17-21.10. даведаешся, хто прыхільны для цябе і пераканаешся, хто зычлівы. З 23.10. будзеш мець шанц выйсці шчасцю наперад і зрабіць штосьці, аб чым даўно марыў; ідэальны час на падарожжы. Арганізуй уласную прастору, змяні дома інтэр'ер (хоць перастаў мэблю!).

**(24.07. — 23.08.)** 17-21.10. у любоўных пытаннях трымайся больш дасведчаных асоб і слухай іх парад. Сур'ёзна патрактуй першыя прыкметы прастуды. Дбай таксама аб страўнік, не еж абы-чаго. 20-24.10. ненайлепшыя лады з супрацоўнікамі, будзеш раздражнены; варта адразу выкінуць з сябе ўсе жалі; сітуацыя хутка палепшыцца. 21-25.10. будзеш добрым дыпламатам.

**(24.08. — 23.09.)** 21-25.10. аголіцца твая слабасць, якую будзеш маскаваць злосцю. Рэагуй адэкватна да сітуацыі, інакш на гэтым страцяць твае блізкія. А прыкрых слоў, сказаных у бурлівы момант, не вернеш назад. Шыкуецца мноства атракцыёнаў. 18-19.10. трэба будзе вырашыць аб будучыні. Пасля 23.10. вернецца твая ўнутраная раўнавага. Не жыві над свой стан, бо прыйдзецца сягнуць па жалезныя ашчаднасці. З 23.10. не рызыкуй на працы!

**(24.09. — 23.10.)** 17-19.10. не дай сябе заваражыць няўартай увагі асобе. 20-24.10. лепш стань збоку і не ўключайся ў заблытаныя справы датычныя сям'і. 21-25.10. знакамітая фізічная і псіхічная форма. Сіла твайго характару праб'е табе дарогу да поспеху. З 23.10. прылашчыш ворагаў, справішся з канкурэнцыяй, прытрапяцца добрыя выпадкі і шчаслівыя моманты.

**(24.10. — 22.11.)** 17, 18.10. будзеш поўны энергіі і ініцыятывы, будзеш правадыром. 21-25.10. — вернасць і страснасць, таксама дастатак. Але 20-24.10. можа прагучаць многа несправядлівых і балючых слоў, якія цяжка будзе забыцца. Можа цябе падвесці асоба, якую не падазраеш у кепскіх намерах. 23, 24.10. хутчэй не разлічвай на дапамогу сяброў; калі ты з кімсьці ў канфлікце, першы працягні руку.

**(23.11. — 22.12.)** Поўня Месяца можа быць пераломнай для тваёй псіхікі. Будзеш празмерна пабуджаны, нецярплівы, усё будзе цябе злаваць; гэта можа паўплываць на тваё здароўе. Найлепш парабі абследаванні (нервы, вантробы). З 23.10. можаш без боязі пайсці новай дарогай. Калі будзеш ведаць сваю каштоўнасць, выйграеш у спрэчцы.

**(23.12. — 20.01.)** Дагаворышся ў пары ў справе, якая не дае вам спаць. А папраўдзе няма чаго спрачацца! 23-27.10. заляціць табе ў вока асоба, якую ты лічыў толькі знаёмай. Нітка сімпатыі будзе трывалай, а само знаёмства вельмі натхняльнае. З 23.10. (да 27.10.) не падпісвай важных дакументаў, бо дробная памылка будзе пасля вельмі многа каштаваць.

**(21.01. — 19.02.)** Пачні рэгулярныя практыкаванні. Будзе нервова ў хаце, можа кончыцца страшным скандалам. Не бойся інвеставаць, вельмі добрыя нагоды пачнуцца з 23.10. З 23.10. (да 27.10.) будзеш мець вялікае шчасце да грошай! Можаш выйграць вялікую суму, добра заінвеставаць.

**(20.02. — 21.03.)** 17-19.10. можаш вельмі расчараваца, 17-20.10. зоркі падкажуць табе развой і прагрэс (але магчымае і расстанне). Але потым засяродзься на сабе і займайся сваімі справамі. Інтуіцыя падкажа табе найпрасцейшы шлях да рэалізацыі ўласных мэт. Будзеш спраўным арганізатарамі каардынатарам. Але не павер у залатыя горы ў фінансах — будзь асцярожны!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.

# У палескай глыбінцы (18)


Дом малітвы ў Мілячы

У сяле Міляч я зразумела, чаму ў дарозе за мяне хвалявалася прыгодна сустрэтая ў цягніку Люба Красько. Тут трэба было пераключыцца на палескую лагістыку. Ды я сама, як нейкі таўкач, зблытала станцыі і зараз не ведала ці плакаць, ці мне смяяцца. Прыпынак афіцыйна называлі Міляч, аднак да сяла было яшчэ пяць кіламетраў. Аўтобус, які мог падабраць мяне ў цэнтр, прыехаў толькі праз гадзіну. Ад мясцовых я пачула, што знаходжуся ў асадзе «Бялай», якую пасля далучэння да Украіны перайменавалі ў «Білу». Так ці інакш, месца прамовіла каланіяльнай эстэтыкай. На абочынах вакзала, усюды дзе не глянь, віднелі гурбы ссечанага лесу. Частка клёцаў была ўжо пагружана ў вагоны і чакала адпраўкі ў Турцыю. Падобныя эшалоны з лесам я прыкмеціла ў Сарнах, хоць там усё маскіравала гаротная кантрабанда, пры якой ссечаны лес здаваўся чымсьці звычайным.

У Білай я зайшла ў першую хату, каб запытаць што рабіць, у які бок мне падацца. Дзед, які раней чым падказаць дарогу і параіць як шукаць патрэбнага мне чалавека, выпытаў мяне пра ўсё на свеце: адкуль я родам, якім ветрам мяне прыдула ў іх сяло, колькі ў Польшчы каштуе кілаграм каўбасы, ці праўда, што пенсіянеры атрымліваюць вялікую пенсію? Допыты трывалі без канца. На дадатак гаспадар быў ужо прыглухаваты.

У Мілячы я хацела адшукаць Сяргея Якубовіча.

— А чый ён будзе? — дапытваўся дзед. — Як па бацьку яго называюць?

— Не ведаю!

— Я сам усіх Якубовічаў не злічу, — разгубіўся дзед. — Цяжкая справа. У нас іх процьма, а тых малодшых я нават не ведаю.

— Ён піша артыкулы ў газеты, — падумала я ўголас. Так мне здалося на хаду. На самой справе пра чалавека, якога я шукала, нічога не ведала. Гэты кантакт, без канкрэтнага адраса і тэлефона, падказалі людзі з Беларусі. Ім, як і мне, здалося, што ў сяле без ніякіх праблем знойдзеш каго заўгодна ўдзень і ўночы...

Ніхто з нас раней не падумаў, што пад адным прозвішчам у палескай вёсцы можа жыць больш за трыццаць сем'яў. Аднак падказка пра артыкулы і газеты спрацавала.

— Ён настаўнік будзе, — падказаў мне дзед. — Спытайце пра яго ў школе...

Ад апошняй весткі пасвятлела мне ў галаве. Такая дробязь неверагодна падмацавала.

* * *

Аднак я прытомна абмеркавала, што не змагу наведаць школу і аднachасова паспець на аўтобус у Перабродны. Маё музычнае сяло знаходзілася па адной дарозе, а публічны транспарт заязджаў туды раз у дзень. Наведаць Перабродны — гэта была мэта майго палескага падарожжа. Калі на трасе з'явілася маршрутка, я рашыла спачатку дабрацца ў Жадзень.

Амаль сто адсоткаў пасажыраў складалі жанчыны, сярод якіх таксама найбольш было пенсіянерак. Усе вярталіся з гарадскіх базараў, уючаныя кашамі і мяшэчкамі. Разам з бабулямі падарожнічала школьная моладзь. У сярэдзіне грымела ўкраінская папса, якая адводзіла думкі ад трасухі на выбоінах і дзіравых асфальтоўках. Дыскамфорт нікога тут не здзіўляў, не даводзіў да белай гарачкі. Шафёр, замест брыдкасловіць, толькі падпяваў за музыкантамі і выбіваў рытм пятой. За акном слаліся лясы, частка з якіх была павалена буралом. Час ад часу па дарозе калаціласа фурманка або аблеплены пасажырамі, быццам шашлык, матацыкл. На адным я налічыла ажно пяцёх падлеткаў. Яны гналіся сярэдзінай дарогі, спрытна абмінаючы выбоіны і лужыны. Гэта быў знак, што паліцэйскі радар тут яшчэ не прыжыўся і быў чыстай абстракцыяй.



У Жадзені прывітала глыбокая пясчаная вуліца. Дзе-нідзе выстойвалі групы мужчын, якія вяла абмяркоўвалі справы. Час развеяўся, ніхто нідзе не спяшаў, не пёрся. На пясчаных выдмах красаваліся расахатыя сосны. Дзе-нідзе хадзіў конь. Пры кожнай хаце стаялі стагі сена. Пытаць тут пра гатэль ці агратурызм было смешна і бессэнсоўна.

Тым часам мне захацелася схадзіць у туалет.

У канцы сяла, дзе чакала я аўтобуса ў Перабродны, стаяў адкрыты бар, з добраўпарадкаваным наваколлем. Я пераступіла парог. У сярэдзіне панавала беззаганная чысціня. За прылаўкам дзяжурыла самотная дзяўчына з непрыступным тварам. Хоць тут не было прыбіральні для гасцей, мне дазволілі пакарыстацца прыватным туалетам. З гарачых страў прапанавалі тут кітайскі суп з пакета. Я заказала каву і распытала пра магчымасці даехаць у Перабродны.

— Найлепш ідзіце на падсадку, — прапанавала мне барменка. — Гэта самы надзейны спосаб, каб дабрацца. Аўтобус не заўсёды туды заязджае. А часам дык яшчэ і папсуецца ў дарозе.

Мая дарога была сапраўдным бездарожжам ды ішла праз неразгаданы лес, таму я абачліва спытала:

— А гэта бяспечна сядаць на падсадку?

— Бяспечна, бо на прыватных машынах перамяшчаюцца *веруючыя*.

Апошняе слоўца, якое на Палессі абазначае пратэстантаў, яна вымавіла сцішана і ласкава. Я згадалася, адкуль тут у прыбалотным кутку, то-бок у бары, тая празмерная чысціня, парадак і ціш. Аднак мае ўяўленні развеяліся ў нішто. Я не паспела даціць каву, калі ў бар завітаў счарнелы алкаголік. Голасам, які напамінаў плач, ён прасіў паратунку. Карацей, яму трэба было выпіць чарку, каб не памерці. Дзяўчына спачатку праганяла анучкай нечаканага госця, які сапсаваў ейнай установе імідж у вачах замежнага госця. Але пасля здалася. Яна наліла алкашу пластмасавы кубачак гарэлкі і запісала яго доўг у тоўсты і выслужаны сшытак. Так, гэты выслужаны сшытак дзіўна кантраставаў з празмернай чысцінёй месца...

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**




Жадзень, цэнтр

ISSN 0546-1960